Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 42 (4842) 23 кастрычніка 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў з 40-годдзем з дня заснавання. За параўнальна кароткі перыяд ВНУ заняла дастойнае месца ў адукацыйнай прасторы краіны і замацавала за сабой статус вядучай у сферы культуры. «Сёння ўніверсітэт з'яўляецца цэнтрам прыцягнення маладых творчых сіл, робіць значны ўнёсак у эстэтычнае выхаванне падрастаючага пакалення, захаванне духоўных традыцый беларускага народа», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Фотавыстаўка БелТА «Суверэнная Беларусь: эпоха дасягненняў» праходзіць у Душанбэ ў межах Дзён культуры Беларусі ў Таджыкістане. Архіўныя чорна-белыя фатаграфіі распавядаюць, як жыла Беларусь 25 — 30 гадоў таму, каляровыя — пра дзень сённяшні. Здымкі апошніх гадоў адлюстроўваюць сферы жыцця, дасягненнямі ў якіх краіна можа ганарыцца.

✔ Віртуальная чытальная зала Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі з'явілася ў расійскай сталіцы на пляцоўцы Дзелавога і культурнага комплексу Пасольства Беларусі ў Расіі. Як зазначыў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі, такая зала створана спецыяльна для беларускай дыяспары ў Расіі: тут можна атрымаць інфармацыю, да якой няма доступу з іншых месцаў.

✔ У мінскім касцёле Найсвяцейшай Тройцы (святога Роха) праходзіць XII фестываль духоўнай музыкі «Залатагорская ліра». Праграму адкрыў канцэрт камернай музыкі «Тры цішыні». Гледачы ўжо пабывалі на канцэрце харавой музыкі, выступленнях французскага арганіста П'ера Зеворта і дацэнта Беларускай акадэміі музыкі Уладзіміра Неўдаха. Заўтра чакаецца канцэрт саліста Белдзяржфілармоніі Канстанціна Шарова.

✔ XX Міжнародны фестываль арганнай музыкі «Званы Сафіі», што сабраў таленавітых маладых музыкантаў з Беларусі, Расіі, Аўстрыі, Італіі, Германіі і Даніі, праходзіць у Полацку. Падчас канцэртаў прагучаць творы майстроў эпохі барока, французскага і нямецкага рамантызму, сучасных кампазітараў.

✔ Фільм пра Гродна прадоўжыць цыкл дакументальных стужак «Гарады Беларусі» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Рэжысёр Генадзь Рабцаў імкнецца перадаць асаблівую атмасферу Гродна. Асноўная ўвага надаецца адмысловым сімвалам горада — Каложскай царкве, Новаму замку, Фарнаму касцёлу, абласному драматычнаму тэатру.

✔ У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстаўка «*FASHION IS MY PASSION*! Модная індустрыя 70-х — 90-х гадоў: беларускі фармат», якая праходзіць у межах Месяца фатаграфіі ў Мінску. Гэта першая спроба паглядзець на індустрыю беларускай моды праз прызму асабістых гісторый і ўспамінаў актыўных удзельнікаў тых падзей.

ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15042



# Гісторыя на палатне


*Май Данцыг «Насустрач жыццю», 1958 г.*

**Урачыстае адкрыццё юбілейнай выстаўкі народнага мастака Беларусі Мая Данцыга адбылося ў Нацыянальным мастацкім музеі. Творчасць майстра, бадай, яшчэ ніколі не была прадстаўлена так маштабна: пад адным дахам сабрана больш як 200 жывапісных і графічных работ.**

Як паведаміла куратар выстаўкі Наталля Сяліцкая, экспазіцыю склалі не толькі добра вядомыя палотны, якія ўвайшлі ў залаты фонд айчыннага мастацтва XX стагоддзя («Партызанскае вяселле», «Навасёлы», «Рабочы», «Мой Мінск» (інш.), але і тыя, што былі створаны цягам апошніх гадоў. Некаторыя работы прадстаўляць аўтара з абсалютна нечаканага боку. Так, сапраўдным шматлікія жывапісныя эцюды, якія раней не экспанаваліся для шырокай аўдыторыі.

Імя Мая Данцыга — аднаго з вядучых майстроў станковага і манументальнага жывапісу, — добра вядомае ў нашай краіне і за яе межамі. Мастак упэўнена заявіў пра сябе яшчэ ў 1950-я — 1960-я гады, калі ў айчыннае мастацтва прыйшло пакаленне творцаў «сурова стылю», якія імкнуліся да лаканічнага і выразнага адлюстравання паўсядзённасці.

Творца аддае перавагу рэалістычнаму жывапісу. Яго работы — мастацкі летапіс роднага краю. На палотнах распавёў пра Вялікую Айчынную і партызанаў, мірны час, будаўніцтва пасляваеннага Мінска і яго жыхароў… Героі большасці твораў — людзі працы, выбітныя суайчыннікі.

Чытайце на стар. 16 ▶

# Квітней, творчасць!

**На працягу сарака гадоў у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў збіраюцца на вучобу будучыя беларускія артысты, музыканты, мастакі, бібліятэкары, майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**

15 кастрычніка выкладчыкі, выпускнікі і студэнты адзначылі юбілей сваёй навучальнай установы ў малой зале Палаца Рэспублікі. Падчас свята прагучала шмат віншаванняў і ўспамінаў, многія супрацоўнікі ўніверсітэта ўзнагароджаны граматамі.

А потым — канцэрт вядомых творчых калектываў універсітэта! Камерны хор «Дабравест» выканаў іскрыстае «Парыжскае танга», вакальны гурт «Універсум» уразіў сучаснай апрацоўкай беларускай народнай песні. Была прадстаўлена і сцэна са знакамітага мюзікла «Дуброўскі», створанага Кімам Брэйтбургам разам са студэнтамі БДУКіМа. Сфатаграфавацца з артыстамі і нават звярнуцца да іх з пытаннем можна было ў фае падчас прэв'ю-шоу. Для гасцей і ўдзельнікаў свята падрыхтавалі экспазіцыю лепшых студэнцкіх работ: кераміка, ручное ткацтва, аплікацыі саломкай, роспіс па тканіне.

Фота Кастуся Дробава.



*Акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандр Каваленя віншуе рэктара Дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Юрыя Бондара з юбілеем навучальнай установы.*

Чытайце на стар. 2 ▶

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Квітней, творчасць!

Ва ўніверсітэце культуры і мастацтваў вучацца не толькі творцы, але і глыбакадумныя кніжнікі. Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі з удзячнасцю да сваіх колішніх педагогаў перадаў у дар БДУКіМ першыя тамы факсімільнага выдання «Кніжная спадчына Францыска Скарыны».

Цікавай часткай праграмы сталі віншаванні ад прадстаўнікоў іншых вышэйшых навучальных устаноў, якія рыхтуюць спецыялістаў па родных спецыяльнасцях. Выступоўцы прыгадалі кур'ёзныя гісторыі, звязаныя са сваімі творчымі прафесіямі і адзначылі высокія дасягненні калег.

Заслужаная артыстка Беларусі Алена Спірыдовіч нагадала, што веды — «гэта не мэта, а інструмент для пошуку жыццёвага сэнсу. Мэта кожнага чалавека — памнажаць дабро і любоў вакол сябе». Першы намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Вадзім Богуш адзначыў: «Пачуццё прыгожага вельмі значнае для людзей мастацтва. Прыгожыя справы, прыгожыя думкі, прыгожыя людзі — усё гэта асвятляе наша жыццё».



Фота Кастуся Дробава.

*Наведвальнікі ўрачыстага мерапрыемства знаёміцца з фотавыстаўкай, прысвечанай гісторыі Дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.*

**Юлія ШПАКОВА**

*Праекты*

# Каб засталіся

**Наведвальнікі Літаратурнага музея Петруся Броўкі да 31 кастрычніка могуць пазнаёміцца з праектам украінскага фатографа-дакументаліста Артура Бондара «Подпісы вайны». Некалькі дзясяткаў невялікіх фотапартрэтаў, удвая меншых за стандартную фотакартку 9×13, магчыма, пакінуць аглядальніка ў непаразуменні: ці маюць выключную каштоўнасць выявы пажылых людзей звыклага для нас выгляду, хай і з медалямі на грудзях?**

Тлумачэнне фотапраекта лепш за ўсё пачуць з вуснаў аўтара, таму расповед Артура Бондара прыкметна ажывіў экспазіцыю і пераканаў у значнасці агульнай задумы. Увага маладога фатографа была звернута да людзей старэйшага пакалення, якія аддалі найлепшыя гады Вялікай Айчыннай вайне — удзельнічалі ў баявых дзеяннях, працавалі ў тыле, трапілі ў нямецкі палон... «Гэта пакаленне ўжо сыходзіць, і я вырашыў зрабіць іх фотаздымкі, каб пакінуць памяць пра аблічча, нагадаць пра жыццёвыя каштоўнасці, якія часткова страцілі для нас актуальнасць. Няма фатографа, які не здымаў бы ветэранаў, таму я шукаў уласны ракурс і падыход...».

Цікавай асаблівасцю фотакартак сталі подпісы ветэранаў пад выявамі, бо стары *Polaroid* 600 дазваляў адразу паказваць фотаздымак чалавеку і падчас размовы атрымліваць яго роспіс. Набыткам Артура Бондара сталі не толькі фотакарткі, але і шматлікія гісторыі, якімі з ахвотай дзяліліся ветэраны з Украіны і Расіі. Пра самых запамінальных асоб ён распавёў наведвальнікам музея.

70 тэматычных фотаздымкаў увайшлі ў адмысловы альбом — цёмную цяжкую кнігу у форме гранітнай пліты. «Кніга больш паведамляе аб праекце, чым выстаўка ці фотагалерэя ў інтэрнэце, — упэўнены Артур Бондар. — Калі мы гартаем выданне, то знаходзім свой рытм для разгляду здымкаў. Каб чалавек мог перыядычна спыняцца і асэнсоўваць убачанае, у кнізе ёсць чорныя старонкі з кароткімі выказваннямі маіх герояў».

Сыходзяць пакаленні, блякнуць палароідныя фотаздымкі, пакрысе губляецца памяць пра асобных людзей... З аднаго боку, праект А. Бондара сцвярджае непазбежнасць сыходу. З іншага — нагадвае пра самае галоўнае, што чалавек можа супрацьпаставіць уласнай часовасці, — цікаўнасць і ўвагу адзін да аднаго. «Кожны чалавек мае год нараджэння, але ў душы няма ўзросту. Гледзячы на ветэранаў, я бачыў усё тых жа людзей, якія толькі пачынаюць жыць...»

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Напярэдадні*

# «Лістапад». Хутка!

**Лепшыя работы кінематаграфістаў з шасці краін будуць прадстаўлены на конкурсе нацыянальных кінашкол падчас XXII Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад».**

Паводле дырэктара праграм неігравога кіно Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» Ірыны Дзям'янавай, сёлета атрымана вялікая колькасць заявак ад патэнцыяльных удзельнікаў. У конкурсе будзе прадстаўлена 26 кароткаметражных і сярэднеметражных фільмаў. Пальму першынства ў маладым дакументальным кіно будуць аспрэчваць прадстаўнікі васьмі кінашкол з Беларусі, Расіі, Эстоніі, Чэхіі, Польшчы і Кубы.

Каля 20 маладых рэжысёраў прыедуць у Мінск, каб прадставіць свае курсавыя і дыпломныя работы. Як прагучала падчас прэс-канферэнцыі, у конкурсе нацыянальных кінашкол бярэ ўдзел і Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў.

Паказы пройдуць у кінатэатры «Мір» з 7 па 9 лістапада.

Больш як 180 фільмаў з 60 краін свету возьмуць удзел у XXII Мінскім міжнародным кінафестывалі «Лістапад», які пройдзе ў Мінску з 6 па 13 лістапада. У праграме — 184 карціны з 60 краін: 91 ігравы фільм, 70 неігравых, 23 анімацыйныя.

Арганізатар галоўнай кінападзеі года — Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн». Заснавальнікі — Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт пры ўдзеле Белтэлерадыёкампаніі, Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», Беларускага саюза кінематаграфістаў.

**Міра ІГУКОВІЧ**

*Стасункі*

# Тры мовы сустрэліся

**Чарговы міжнародны літаратурны фестываль «Берагі дружбы» прайшоў у Някліна ўскім раёне Растоўскай вобласці, што недалёка ад Таганрога.**

Сабраліся літаратары Беларусі, Расіі ды Украіны. Нашу краіну прадставіла аўтар гэтых радкоў, Расію — Святлана Макарава, Васіль Дварцоў, Ірына Міхалкіна ды інш., Украіну — Анатоль Міроненка. Арганізатарам і натхняльнікам фестывалю выступіў паэт Леанід Север — член Саюза пісьменнікаў Расіі ды Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Літаратары выступалі ў школах раёна, на сцэне зялёнага тэатра ў парку імя Чэхава (г. Таганрог), наведалі з экскурсіямі археалагічны музей-запаведнік Танаіс і лётную школу ў Някліна ўскім раёне, узялі ўдзел у свяце нацыянальных культур у сяле Пакроўскім.

Заключным акордам фестывалю стала прэзентацыя Міжнароднага літаратурнага перакладчыцкага праекта «Трохмоўнае сяброўства» ў Доме журналіста г. Растова-на-Доне. Гэты праект, стартаваўшы яшчэ тры гады таму, не страчвае актуальнасці па сёння. У яго межах выйшла некалькі зборнікаў паэтычных перакладаў: «Слова за словам», «З адной калыскі», «Атожылкі славянскага камля»…

У найбліжэйшых планах арганізатараў — далучэнне да праекта маладых паэтаў-перакладчыкаў з Украіны, Расіі і Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК**

*Вытокі*

# Свята на востраве

**Дзень нараджэння вёскі Станькава, якой пашчасціла мець багаты на шматлікія падзеі ўзрост — больш як чатыры сотні гадоў, адзначаўся ў мінулую суботу. Творцам Дзяржыншчыны прадставілася выдатная нагода не толькі пабываць у непаўторным кутку Беларусі, але і самім стаць непасрэднымі ўдзельнікамі свята.**

Месцам урачыстасці абралі востраў на ўскрайку парка, аблюбаваны яшчэ ў часы графа Чапскага. З другога боку — Станькаўскае возера. У пачатку мінулага стагоддзя тут адпачывалі знатныя асобы. Сёлета востраў, яго знакамітая альтанка, масткі дзякуючы неабыякавым да гістарычнага мінулага людзям набылі свой першапачатковы выгляд.

Высокае майстэрства артыстаў выклікала ў гледачоў захапленне. А калі са сцэны загучалі паэтычныя радкі пра вёску, родную зямлю, нязменныя ў жыцці кожнага чалавека каштоўнасці, усе задуменна прыціхлі, каб потым гарачымі апладысментамі падзякаваць членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Рэгіне Рэўтовіч, Людміле Круглік, паэту з дзяржынскага літаб'яднання «Выток» Уладзіміру Шымановічу. Вось так жывое роднае слова яднае з любімай Бацькаўшчынай, Радзімай.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

*Імпрэзы*

# Пад музыку ваеннага аркестра

**Творчы вечар айчыннай пісьменніцы і кампазітара, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Яніны Жабко адбыўся ў сталічным Доме літаратара. Падчас імпрэзы свае здольнасці праявіла не толькі галоўная гераіня, але і яе вялікая сям'я. У творчым актыве Яніны Георгіеўны — і песні, і вершы, і проза, прычым на дзвюх мовах: беларускай і рускай — больш як 30 зборнікаў!**

Піша яна пра поры года, пра Бацькаўшчыну, пра шчырых і працавітых жыхароў нашай краіны, пра мілагучнае беларускае слова. Асаблівага поспеху дасягнула ў галіне дзіцячай літаратуры.

На пачатку імпрэзы старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў уручыў Яніне Георгіеўне Ганаровую грамату СПБ за шматгадовую плённую працу, сацыяльна значныя кнігі для дзяцей і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці пісьменніцкай арганізацыі.

На вечарыну завіталі — з музычнымі нумарамі — дзеці ды ўнукі пісьменніцы. Публіку вітаў… ваенны аркестр пад кіраўніцтвам старэйшага ўнука Дзмітрыя Навумовіча! Выхаванцы сталічных дзіцячых садкоў № 172 і № 174, навучэнцы гімназіі № 16 разам з педагогам — дачкой Я. Жабко Людмілай Навумовіч, «Міні-міс Беларусь» Дар'я Баранчыкава, ансамбль «Чараўніцы», спявак Леанід Нікольскі… Гучалі, ведома, і вершы Яніны Жабко ў аўтарскім выкананні. А завяршыўся вечар-канцэрт песняй «Мы хотим, чтоб птицы пели» на музыку Яніны Жабко (аўтары тэксту — Алена Карганава і Яніна Жабко).

**Яна ЯВІЧ**

*З нагоды*

# Дзень спадарыні Маці

**Цікавыя сустрэчы, прымеркаваныя да Дня маці, прайшлі ў многіх установах культуры і адукацыі. Наведвальнікі мерапрыемстваў узгадалі пра значнасць узаемапавагі ды згоды ў сям'і і прынеслі дадому ўзнёсласць, зычлівасць і цеплыню.**

Супрацоўнікі **Літаратурнага музея Петруся Броўкі** падрыхтавалі да Дня маці адмысловую літаратурную праграму. Сустрэча распачалася расповедам пра Алену Сцяпанаўну Броўку — маці народнага паэта Петруся Броўкі. Алена Сцяпанаўна выгадавала дзесяцярых дзяцей, а падчас Вялікай Айчыннай вайны ахвяравала жыццём, каб выратаваць дзяўчыну, разам з якой патрапіла ў Асвенцым.

У лагеры кожны дзень пачынаўся з таго, што людзей выводзілі на вуліцу, выстройвалі ў шарэнгі. Кожны дзясяты павінен быў загінуць. У той дзень Алена Сцяпанаўна была дзявятай, пасля — маладая дзяўчына. Алена Броўка начапіла лагерны нумар дзяўчыны, неўзаметкі стала на яе месца… І была спалена ў печы крэматорыя. Праз некалькі дзён палонных вызвалілі. Выратаваная дзяўчына засталася ў жывых.

Пятрусь Броўка распавёў пра лёс маці ў паэме «Голас сэрца», створанай 55 год таму.

Трагічныя падзеі вайны вучаць быць моцнымі і мужнымі. Гэтыя якасці неабходныя і сучаснаму чалавеку: трэба знайсці душэўныя сілы, каб выгадаваць дзяцей, у складаны час падтрымаць бацькоў. Пра значнасць цёплых адносін у сям'і нагадалі паэтэсы Вера Буланда, Галіна Каржанеўская, Людміла Паўлікава-Хейдарава, Алена Багдановіч, Вера Міхно ды інш. Прагучалі песні-прысвячэнні ў выкананні Тамары Кашчэва, Івана Катовіча і Андрэя Кімбара.

У **сталічнай бібліятэцы № 14 імя Ф. Багушэвіча** адбылася сустрэча пісьменніка Уладзіміра Ліпскага з вучнямі гімназіі № 27. Галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» прадставіў наведвальнікам кнігу «Я», падкрэсліў неабходнасць глыбокіх ведаў пра свой род, расказаў пра пошукі іншых Ліпскіх, якія жывуць не толькі ў краінах блізкага замежжа, але і ў Аўстраліі ды ЗША. Пісьменнік узгадаў уласную маці, якая падчас вайны ратавала сям'ю ў лесе. Кожны ўдзельнік сустрэчы таксама можа скласці кнігу пра родзічаў — дзеля гэтага, па меркаванні пісьменніка, варта завесці сшытак для цікавых матчыных выказванняў і расповедаў, а таксама ўзяцца за стварэнне радаводнага дрэва.

Для матуль прагучалі прыгожыя вершы і віншаванні.

Школьнікі Фрунзенскага раёна, якія наведалі чарговае мерапрыемства ў клубе «Сардэчныя сустрэчы» ў **Цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі**, пазнаёміліся з незвычайнымі гасцямі — экскурсаводам Музея маці Алесяй Мілановіч і знакамітым скульптарам, паэтам, кампазітарам Хізры Асадулаевым.

Музей маці пачаў дзейнічаць у сярэдняй школе № 42 пазалетась.

У Фрунзенскім раёне сталіцы жыве няло шматдзетных сем'яў — адпаведна, менавіта тут па ініцыятыве Беларускага саюза жанчын быў створаны музей, экспанаты якога раскрываюць стасункі і побыт у беларускіх сем'ях. У музеі ёсць і куток майстэрства, і «літаратурная старонка». Алеся Іванаўна правяла завочную экскурсію па музеі і запрасіла школьнікаў у госці.

Хізры Асадулаеў распавёў пра сваю Радзіму — далёкі горны Дагестан — і асобна спыніўся на стаўленні мусульман да жанчыны. «У Дагестане маці — гэта святое. Існуе нават прымаўка «Рай знаходзіцца каля ног маці». Лаянка ў дачыненні да маці недапушчальная — за гэта могуць нават забіць. Часта жанчына мае большую вагу над мужчынам, бо ўмее асцярожна і мудра накіроўваць яго да правільных учынкаў і рашэнняў».

Хізры Асадулаеў падрыхтаваў для дзяцей прэзентацыю сваіх работ, пазнаёміў з паэзіяй Расула Гамзатава, а таксама прачытаў пераклады ўласных вершаў на рускую і беларускую мовы. Згадаў творца і свайго добрага сябра Рыгора Барадуліна, падкрэсліў неабходнасць ведаць родную мову, без якой «не будзе засвоены глыбінны культурны пласт».

— З першых дзён знаходжання на Беларусі я пачаў вывучаць беларускую мову, бо палічыў неабходным ведаць культуру і гісторыю той зямлі, дзе збіраюся жыць, — падкрэсліў Хізры Асадулаеў.

**Юлія ШПАКОВА**



Фота Сяргея Нікановіча.

*Хізры Асадулаеў распавёў...*

* * *

Удзельніцы клуба творчых жанчын «Спадарыня», пастаянная пляцоўка якога — сталічная публічная бібліятэка № 5, у тым ліку члены Беларускага саюза жанчын, сабраліся на чарговую сустрэчу, гэтым разам прысвечаную Дню маці.

Кіраўнік клуба, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Бунта адкрыла імпрэзу вершам Еўдакіі Лось «Маці родная, маці мая!..». Музычны падарунак падрыхтавалі ўдзельнікі ансамбля «Мінскі гармонік».

Віншаванні з юбілеем прымала паэтэса Вольга Норына. З рук старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова яна атрымала ганаровыя граматы ад Саюза пісьменнікаў Беларусі і МГА СПБ. Пачула публіка таксама лірыку паэтэсы Валянціны Паліканінай ды Міхася Пазнякова ў аўтарскім выкананні.

Падчас «паэтычнай пераклічкі» свае вершы дэкламавалі сябры СПБ Ніна Галіноўская, Лізавета Палеес, Алена Міхаленка, Жанна Мілановіч, Вольга Шпакевіч ды іншыя. Урывак са свайго твора прачытала і намеснік старшыні МГА СПБ, празаік Наталія Касцючэнка.

**Яна ЯВІЧ**

# «Мінская хваля»: новыя галасы

**Нядаўна адбылася сустрэча літаратараў Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі з кіраўніцтвам тэлерадыёкампаніі «Мінская хваля».**

Падчас размовы, у якой узялі ўдзел пісьменнікі Генадзь Аўласенка і Святлана Быкава, а таксама аўтар гэтых радкоў, былі абмеркаваны шляхі далейшага ўзаемадзеяння.

Шмат цікавых прапаноў выказала дырэктар «Мінскай хвалі» Тамара Вяцкая. Так, адзін раз на тыдзень, па панядзелках, будзе ладзіцца прамы эфір з прафесійнымі пісьменнікамі. У літаратараў Міншчыны з'явіцца магчымасць распавесці пра сябе і пазнаёміць радыёслухачоў са сваёй творчасцю.

Яшчэ адна рубрыка — «На літаратурнай хвалі» — мае на мэце папулярызацыю надрукаваных кніг пісьменнікаў вобласці праз чытанне твораў прафесійнымі артыстамі. Таксама прынята рашэнне папоўніць рэпертуар для вячэрняй перадачы «Бабуліны казкі».

**Ірына КАРНАУХАВА**

# Балада пра...

**Персанальная фотавыстаўка Міколы Лінніка, што праходзіла ў межах Месяца фатаграфіі, завяршылася ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі. Работы фотамастака экспанаваліся тут разам з прысвечанымі знакамітым людзям Беларусі баладамі айчыннага паэта Віктара Шніпа, па якіх і былі створаны.**

Сярод тэкстаў — «Балада Якуба Коласа», «Балада Язэпа Драздовіча», «Балада Яўгеніі Янішчыц», «Балада Ядвігіна Ш.». Мікола Ліннік адзначыў, што адкрыў для сябе шмат новых імёнаў.

У творчым арсенале В. Шніпа — каля трох соцень балад, прысвечаных знакамітым постацям Бацькаўшчыны. У фотаздымках Міколы Лінніка, што былі прадстаўлены на выстаўцы (а зроблены яны цягам апошніх трох гадоў), знайшло ўвасабленне 28 вобразаў. У суаўтарстве ж атрымалася гэткая фотаэнцыклапедыя айчыннай гісторыі.

Добрыя словы ў адрас фотамайстра прагучалі з вуснаў загадчыцы бібліятэкі Рэгіны Багамолавай, дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзіі Макарэвіч, паэтэсы Вольгі Шпакевіч, мастака Міколы Купавы ды інш. Аздобіла выстаўку выступленне спявачкі Кацярыны Ваданосавай.

**Яна ЯВІЧ**



*Да «Балады Язэпа Драздовіча». Помнік мастаку ў г. Глыбокае Віцебскай вобласці.*

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**25 кастрычніка** — *на канцэрт духоўнай паэзіі, песні і музыкі, які адбудзецца ў Палацы культуры прафсаюзаў (пр. Незалежнасці, 25). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**27 кастрычніка** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63). Ганаровы госць — пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**27 кастрычніка** — *у галерэю «Tut.by» (пр. Дзяржынскага, 57) на творчы вечар юнай паэтэсы Кацярыны Массэ. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**28 кастрычніка** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42) на сустрэчу з маладымі паэтамі. Пачатак у 15.30.*

**29 кастрычніка** — *на творчае мерапрыемства, прысвечанае дню заснавання камсамола. Імпрэза адбудзецца ў Мінскім гарадскім навучальна-аздараўленчым цэнтры «Лідар» (г. п. Ждановічы). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**29 кастрычніка** — *у літаратурны клуб «Жывое слова» пры СШ № 56 (вул. Каменагорская, 70). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**29 кастрычніка** — *на юбілейны творчы вечар паэтэсы Алены Шчарбаковай, які пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 7 імя Я. Коласа (вул. Пляханава, д. 97, к. 4). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**30 кастрычніка** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**31 кастрычніка** — *на літаратурна-музычнае свята ў Цэнтральную бібліятэку Цэнтральнага Дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**Ідзе падпіска на I паўгоддзе 2016 г.**

*«ЛіМ» для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 34 000 руб.**
Падпісны індэкс — 63856

*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 94 400 руб.**
Падпісны індэкс — 638562

*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*
**1 месяц — 21 800 руб.**
Падпісны індэкс — 63815

*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 69 900 руб.**
Падпісны індэкс — 63880



## Соф'я ШАХ

### Спрадвечнае

Дзень мінуў — і птушкі сціхлі,
вецер некуды зляцеў,
толькі воблакі не зніклі, —
іх сагнаць ён не здалеў.
Толькі водбліскі праменя
шчэ ўздымаюць небасхіл
ды варожаць скрытна цені
на задумлівасці хвіль.
Ды імкнуць адлюстраванні
надвячоркавай парой
спалучыць і хваляванне,
і паглыбленыя спакой.
І пацвердзіць чуйным веццем,
лонам траў, святлом вады,
што было, што ёсць, урэшце,
і што будзе праз гады...

### Пчальнік маленства

Дзесьці там Лясец і Салавейкі,
дзесьці там шчэ незнаёмы Светлагорск...
Я — у полі, я — у полі гэткім,
што губляю і зусім ужо свой рост.

Горкае дзяўчо, стаю знямела,
а вакол, куды зрок толькі дастае,
поле фарбы жнівеньскай, зрыжэлай, —
і не дзіва б аслепнуць ад яе.

Поле, пазалочанае летам,
за смугой дзесь пагубляла берагі,
і з якімсьці велічным імпэтам,
быццам вартавыя, высяцца стагі...

Я стаю, — а дых ажно займае,
быццам і ў яго дух велічы пранік
ад мясціны, што спрадвеку мае
назву прыцягальную — Пчальнік.

### Кветкі для ўнучкі

Тры цюльпаны — нібы тры жаданні
у затоеным замілаванні
бачна скіраваны зноў і зноў
да славутых неўскіх берагоў.

Першы, барвы споўнены, чырвоны, —
лёс каб склаўся, Богам беражоны,
каб трымаўся скрозь на вышыні
нават і ў напружаныя дні.

А другі, аранжавы, вядома, —
каб не брала лёс ніколі стома,
каб заўсёды сілу ён даваў
для здзяйснення запаветных спраў.

Ну а трэці, далікатна белы,
безумоўна, сэнсам зразумелы:
каб унуччын даўгавечны лёс
чысціню і праз гады пранёс.

### Восеньскі пейзаж

Восеньскія далі, восеньскія хаткі,
восеньскае неба абдымае дол,
і паветра тоіць восеньскія згадкі
ў гэтай афарбоўцы — рыжай і рудой.

Карані ўжо стынуць, халадзеюць кроны,
сцежкі запляліся вялаю травой,
і зямны прамежак, шчэ нядаўна ворны,
падуладны зараз гэтаксама ёй.

Восеньскае ўлонне, восеньскія думы,
час сяйва ў мінулым, там час і жніва,
ды відочна гоіць восеньскія сумы
купалоў зіхценнем чуйная царква.

### Родны дворык

Пазірае хатка ды з-пад чарапіцы,
пазірае пільна вокнамі двума,
ці не йдзе дадому ўжо яе рупліўца —
гаспадар, якога доўга штосьці няма.

Пазірае хатка на свой цесны дворык,
пазірае нема з думаю адной:
вось і час каторы, час ужо каторы
гаспадыні рупнай штосьці не відно.

Пазірае хатка з-за платоў сівенькіх,
запытаць бы хоча неяк спатайка,
дзе сынок падзеўся — ані чуткі-весткі,
дзе, ў якую далеч дзелася дачка.

Пазірае хатка... Хатка ўсё чакае...
Вясніцы адкрыты колькі ўжо гадоў...
Толькі вецер спраўны ў іх і залятае,
бы і ён шукае тут гаспадароў.

### Дарога праз Пчальнік

Не пазнаю, амаль не пазнаю
вось гэтую пясчаную дарогу,
што сведчыла дзіцячую эпоху,
пару маленства даўнюю маю.
Не пазнаю... Няма наўзбоч канаў,
няма наўзбоч густых, шумлівых вербаў.
А купку дальніх тых, што цешаць неба,
над полем не пры мне ўжо час узняў.
Не пазнаю... А ў памяці відны
уздоўж дарогі пчальнікovы хаты.
Прамежак тых гадоў занадта даўнаваты, —
цяпер адсюль не бачныя яны.
А дзесьці ж там, за гэтым Пчальніком,
сваціліся, гучалі Салавейкі...
Прапала назва вёсачкі навекі,
пакораная часам і Лясцом.
Не пазнаю... Не пазнаю... Бог мой,
вачам балюча, а душы — тым болей:
дарога мкне праз раадолець поле,
а ўжо трава ўладарыць і на ёй.



Фота Кастуся Дробава.



## Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

***

А ў яве ўсіх маіх асноў —
ані пачаткаў, ні канцоў, —
свет нанава тварыўся...
І я маўчаў, хаця ізноў
маўчаннем гаварыўся.
Ляцела птушка мне ў пагляд,
і рассыпаўся снегапад,
гады драмалі ў хаце,
і цішыню, хоць сам не рад,
раптоўна клюнуў дзяцел.
Замёр ён дзесьці на сасне,
прыслухаўся сам да мяне,
як вершы я вышэптваў,
што вечнасць гэту ў белізне
слоў забяру імпэтам.
І будуць белымі радкі,
і сэнс, і гарт у іх такі,
што існасцю пануе.
Я знаю: ёсць у слоў вякі —
і свет мяне пачуе.
Не, рэхам рэха не назваць
і голасу святлом не стаць,
хоць неба снегам роіць...
Каб гэта ўцяміць-усвядомяць,
свядомасці не хопіць.

***

Дзесьці там, за даллю недалёкай
прыкмячаю тое, што не жду...
Над маёй нябачнаю дарогай,
сам нябачны, да сябе іду.
Воблачка штурхнуў — шлях саступіла,
асцярожна сонца абышоў, —
проста ў адступаючую міласць,
тую, што ўсім лёсам не знайшоў.
Ціш крануў маўчаннем неяк лёгка
дзесьці на мяжы нязнаных сіл
і быцця зямнога адгалосак
прама ў паднябессе адпусціў.
А яно гучыць ужо і нема, —
мною гэтулькі забытых слоў,
што, зямельку слухаючы, неба
набывае пасмяротны зоў
дзесьці там, за даллю недалёкай...

***

Заблудзіцца ў сабе толькі геніі могуць,
гэткі вынік для іх — і не вынік, дальбог.
У жадання ёсць мэта, сябе яна тоіць,
і жаданню я ўсё-ткі стаць мэтай не змог.
Дык чаму прадчуваю зноў магію волі,
яснабачання дзесьці працяглы прастор?
Мне б і луг, мне б і лес, мне б і рэчку, і поле,
а не гэты святлом даравальны дакор...
Заблудзіўся ў сабе, як забыўлівы геній, —
пастаю, памаўчу, павінюся здаля.
Аніштo, аніхто ўжо мяне і не зменіць,
толькі сам да ўсяго я змянюся пасля.
Я Радзіме аддаў ці забраў сябе ўсё-ткі?
Адмяніўшы, нішто не магу адмяніць...
Рэпетыцыя гэта жыцця яшчэ толькі, —
з усяго, што спрабую, спрабую я жыць.

***

Соф'і Шах

Мелодыя радка мяне заваражыла, —
я слоў не разбіраў ці не хацеў спярша
іх разбіраць, пакуль яна мяне кружыла,
каб я забыў, што ёсць і на жыцці мяжа.
Гляджу, гляджу, як снег сабой усё запоўніў:
паветра, і зямля, і нават неба — ён...
Няўжо яшчэ душой дасюль я не запомніў,
што сон — як ява мне, а ява — быццам сон?!
Што нават жыць яшчэ як трэба мы не ўмеем,
ды ўсё-ткі разумеем сапраўды цяпер,
што думкамі і то па-снежнаму святлеем,
не помнячы ні пра сваё, ні пра сябе...
У снег і я таксама выйшаў, снегам буду,
хоць побач з ім, ды не, — у ім ужо іду,
і я таксама пра сябе ізноў забуду,
як колісь, слізгаючы, мкліва па ільду.
І стану паўтараць, што ўсё мне раўназначна,
што ява — нібы сон, а сон — як наяву, —
каб снегам праазіхцець: «Каханая, я ўдзячны,
што ты ўва мне жывеш, а я ў табе жыву...»

***

Паспеў змірыцца з доляю сваёю,
нічым ужо не смею даражыць...
Як жыць, калі не ведаю, як жыць?
Кім быць, калі бяссільны быць сабою?
Не ў даль гляджу, а далі сінявою.
Так вечнасці адной хацеў служыць,
ды толькі сам сябе сумеў забыць,
як бы не варты сам сябе душою.
Калі ж гляджу не ў даль, а сіняй даллю,
то векавечным думаю зноў жалем
і ў незямных штосьці чую галасах.
Вы некалі мо ўцяміце ў спагадзе,
што дзесьці там, на дальнім даляглядзе,
ёсць і мая ўсяленская сляза.

***

Розуму няўцям як бы
сутнасць долі вечнай:
ўсе адыдзем у нябыт —
гэта ўжо бясспрэчна.
Анікому не было
на зямлі ратунку.
Ах, якое зноў святло
выдае разлуку!
І такая побач ціш
у напятай спёцы...
Чым усцешыш, чым натхніш,
роднецькае сонца?
Так праменнем праз смугу
унушыць гатова,
быццам выжыць я змагу
ва ўзрушэннях слова.
Стану і святлом, і цьмой,
шолахам няспешным,
застануся ў вершах мной,
нат у чымсьці лепшым.
І ў жывым дыханні дня —
дай жа Бог, усюды —
нават дзе мяне няма,
усё роўна буду.

***

А калі ўсё гэта помніць,
а калі ўсё гэта знаць,
і душу ўсім гэтым поўніць,
і ўсё гэта ў думкі зваць...
І ад крыку захлынацца,
гневам праўды гаварыць,
і з сябе ўжо насміхацца,
над сабою суд вяршыць...
І калі душу праверыць
на сумленнасць — о, Гасподзь! —
то захочацца адпрэчыць
тое ўсё, што ў долі ёсць.
Бо таму яшчэ грахоўны,
што жыву як бы наўгад,
бо і тым, што невіноўны,
больш за ўсіх я вінават.

***

Пакуль душа мая спявае,
пакуль ёй вышняе чутно,
якое рэха пагукае,
ёй усё роўна, усё адно.
І добра мне, калі мне — ліха.
Ах, анікога не віню, —
хапіла б неба мне для ўдыху,
калі я вершамі пяю.
Калі гляджу ўжо і за пагляд,
нібыта я — ужо не я,
на ўсё, што быццам бы і побач,
ды па-за межамі быцця...
Баюся Боскага карання
за ўсё, што любячы вяршу,
ў сябе ж прасіць мне даравання
не ўмею я і не прашу.
Іду туды, дзе думкі-явы,
дзе шлях, дзе замыслы мае.
Астатняе ўжо — справа славы,
дакладней, прыхамаць яе.

**Пераклала з рускай мовы Соф'я ШАХ**

## Дэбют

# Сапфіравыя вочы

МАЁ РАПТОЎНАЕ ПЕРАЎТВАРЭННЕ



Вольга РОПАТ

Нарадзілася ў Мазыры Гомельскай вобласці. Цяпер студэнтка 5 курса Інстытута журналістыкі БДУ. Друкавалася ў газетах «Звязда», «Знамя юности», «Культура», часопісах «Алеся» і «Маладосць».

У кінатэатры «Перамога» працягваўся тыдзень японскага кіно. На занятках нам нагадалі, што гэта трэба абавязкова ўбачыць: культура Японіі ачышчае душу чалавека.

Мне было сорамна, што ніяк не магла выбраць паглядзець японскія фільмы: вучоба — у другой палове дня… Ды і не заўсёды хочацца бегчы кудысьці пасля семінараў (асабліва восенню ці зімою). Толькі б дабрацца да цёплага інтэрната, паесці, паслухаць музыку ды легчы спаць. Заставалася нядзеля — апошні шанц пазнаёміцца з японскай экраннай культурай. У гэты дзень я запланавала спачатку схадзіць у Нацыянальны мастацкі музей на японскую гравюру. Хм… Здаецца, мой японскі тыдзень толькі пачынаўся.

У кінатэатр прыйшла амаль што на гадзіну раней: атрымала білет на мультфільм (месца ў цэнтры залы) — і пайшла разглядваць японскі жывапіс, што экспанаваўся ў фае. Японскім мастацтвам захапілася яшчэ на лекцыі па культуралогіі, яно «раскрылася» для мяне па-іншаму: пейзажы — далікатныя, тонкія, мінімалістычныя, загадкавыя. Некалькі штрыхоў — і карціна. Паэзія таксама лаканічная, вершаваным формам хоку і танка паэты надавалі незвычайную энергію. Японцы бачылі прыхаваны сэнс у прыродзе, успрымалі жывымі расліны і прадметы. У паэзію, быццам карункі, уплятаўся жывапіс. Ад гэтай «мастацкай гармоніі» рабілася лёгка. Культура Японіі нагадвала напоўненую перламутрам крыштальную пасудзіну.

Я пераходзіла ад адной карціны да другой: разглядвала галінкі, на якіх сядзелі маленькія птушкі, ружовыя ці колеру грэйпфрута кветкі з вострымі, быццам зоркі, лісточкамі. Колеравая гама спакойная, ненасычаная, паўпразрыстая. Хвіліны застылі. Толькі я і дуэт — жывапіс з паэзіяй. Колеры і літары — рознакаляровыя і на паперы, і ў маім уяўленні.

Японцы шукаюць прыгажосць у непрыкметным. Японскі спакой ахутвае. У той момант вершы былі спецыяй для настрою.

*О, кленовые листья!*
*Крылья вы обжигаете*
*Пролетающим птицам.*

Сико

Прачытала яшчэ адзін верш і задумалася. Нахлынулі асацыяцыі: бурштынава-мандарынавыя лісточкі, быццам агеньчыкі, свецяцца… І абпальваюць. Штосьці абудзіла, цела быццам сціснулі, і я, як магніт, павінна павярнуць галаву назад.

Позірк незнаёмца: пранікнёна, з нейкай надзеяй, затрымаўся на маіх вачах. Быццам спрабуе праз вочы ўварвацца ў мае думкі. Але спачатку трэба пераадолець празрыстую абалонку, каб зачапіцца за галоўнае — сапфіравыя радужкі. Пайшла далей. Потым звярнула ўвагу на этагамі — паштоўкі з пажаданнямі. Гэта маленькія, здаецца, не зусім прафесійныя малюнкі, але такія душэўныя! Незнаёмец колькі хвілін стаяў побач, назіраў, як я фатаграфавала на тэлефон «імпрэсіянізм душы». З левага боку ўжо не было пустэчы. Ён сціпла падышоў бліжэй і запытаўся, ці падабаюцца мне гэтыя этагамі. Я адказала, што падабаюцца, а потым, пасля першага мужчынскага пытання і першага жаночага адказу, пайшлі разважанні наконт мастацтва — ад кінафестывалю «Лістапад» да Казіміра Малевіча.

Да пачатку мультфільма — пяць хвілін. Мой незнаёмец — аказалася, яго звалі Вадзімам — пайшоў па квіток, а я — у кіназалу на сваё трынаццатае месца. На століку заставалася дзесьці сем квіткоў, і так супала (хочацца верыць), што сярод іх было месца каля мяне. Праз некалькі хвілін Вадзім знайшоў мяне сярод падлеткаў і дзяцей з дарослымі. Сеў побач. Шкада, што ў той дзень паказвалі не фільм, а мульцік… Я ўжо адвыкла ад іх.

Пасля сеанса хацела зайсці ў Нацыянальны мастацкі музей: для мяне японскі вечар працягваўся. Але… Хвілін дваццаць пяць мы з Вадзімам стаялі ля кінатэатра і гаварылі. Спачатку пра мультфільм, а потым — пра архітэктуру Мінска, любімыя вуліцы. Вадзім не заўсёды мяне разумеў, шмат з чым не згаджаўся, але ў ягоных вачах была зацікаўленасць. І адчай.

Я расказвала пра вузкую вуліцу Карла Маркса. Там, як мне падаецца, іншая атмасфера: маленькія балкончыкі, мяккае святло з вялікіх вокнаў, дарагія рэстараны… Не жыццё, а казка. Забываюся пра ўсе клопаты, калі шпацырую па вузкай дарозе. Не… Хачу забыцца. Мне трэба растаць у гэтым яркім бясклапотным жыцці, ператварыцца ў паветра, лятаць каля балкончыкаў і заглядваць у вялікія вокны: а якое там жыццё?

Было вельмі марозна. Здавалася, далоні пакрыліся павуцінкай холаду. Вейкі часта апускаліся, бо вецер літаральна вырываў душу з вачэй. Непрыемна. Іншым разам я глядзела на Вадзіма быццам праз туман ці запыленае шкло. А ён усміхаўся і дарыў мне светла-зялёныя позіркі. Здавалася, яму не было холадна.

Пасля сваіх разважанняў наконт вуліц і дамоў усё ж такі сказала Вадзіму, што мне трэба ў музей. Мяне ж чакала японская гравюра! Прынамсі, спадзявалася, што чакае. У празрыста-зялёных вачах прамільгнула штосьці цёплае і прыемна-задаволенае.

Мы пайшлі па праспекце. Цямнела. Блакітна-шэрага адцення аблокі спрабавалі вырвацца з фіялетавых нябесных згусткаў. Удалечыні стаілася абрыкосавая дымка, што пасля перацякла ў шэрадымныя жмуты. Праз некалькі хвілін неба накрылася аднатоннай аксамітнай коўдрай.

Танклявы стан дрэў здаваўся плоскім, быццам майстар акуратна выразаў іх з чорнага кардону манікюрнымі нажніцамі. Няроўныя, выгнутыя галіны перапляталіся, нібы ніткі. На фіялетавым палатне з'явіліся карункі.

Вадзім адкрыў дзверы — пацягнула цеплынёй. Чырвоны твар паступова святлеў, цеплыня ахутвала тонкія пальцы. Ён доўга пагладаў і хацеў запытацца, але штосьці замінала яму. Мой субяседнік цікавіўся мастацтвам, асабліва кіно, хаця ягоная прафесія ніяк не была звязаная з творчасцю. Ён думаў, што я мастачка. На гэтую думку яго навёў мой журавінава-малочны берэт.

Мы развіталіся ў холе. Ён павольна пайшоў да выхаду і павольна ўзяўся за вялікую дзвярную ручку. Раптам павярнуў галаву ў мой бок.

— Значыць, мы больш не ўбачымся?

— Не, — адказала я і ўсміхнулася.

Апошняя яго фраза драпнула па душы — стала неспакойна і сумна.

Я паднялася на другі паверх, прайшла праз маленькія калідорчыкі з малінавымі сценамі. Вось яны, японскія гравюры. Дачакаліся. Разглядвала жанчын з вузкімі вачыма і тонкімі маленькімі вуснамі. Якое адзенне! Якія тонкія, плаўныя лініі… Але штосьці перашкаджала насычацца гравюрамі. Хацелася гуляць у асацыяцыі, а замест гэтага ў думках хаос — кадры пабытавых эпізодаў. Я адганяла іх, але не атрымлівалася. Абышла работы, паглядзела на куфэрачкі і скульптуры. «Хутчэй, хутчэй…»

Расчараваная, спусцілася ў гардэроб. Здаецца, галава асобна, думкі дзесьці ў палёце, ногі жывуць сваім жыццём. Жывы абстракцыянізм.

Штосьці мяне ўсё больш і больш падганяла да выхаду. Каля гардэроба… Вадзім. Адчай змяніўся мяккай усмешкай. У вачах быццам адлюстраваўся блік ад святла лямпаў. На маім твары расплылася цёмна-ружовая акварэльная фарба, вочы забегалі па доўгіх люстэрках — да якога ж падысці? Рухі былі як нежывыя, фальшывілі. Паўпразрыстая ўсмешка ў вачах Вадзіма перадалася мне ў форме здзіўлення і… незнаёмага адчування, але я так і не зразумела, што гэта было.

Мы ішлі міма яркіх вітрын магазінаў, міма гасцініцы «Мінск». Гэта быў жоўта-сіні вечар. Круглыя ліхтары асвятлялі дарогу, і святло іх раставала ў вышыні, дзесьці ў небе, і расплывалася па цёмнашэрым асфальце. Люблю глядзець на паветранае кола святла — плаўная градацыя колеру: ярка-жоўты пераходзіць у тонкую белую палоску, потым у шараватасінюю дымку і растае. Ён аддае сябе.

Побач з Вадзімам пачувалася спакойна і трывожна адначасова. Жэсты скупыя, але светла-зялёныя, вадзяністыя вочы не хлусілі. Шчырасць і супакаенне. Ён доўга пагладаў на мяне, быццам штосьці замінала паглядзець на прыпынак (ён чакаў аўтобус № 100):

— Я бачу сэнс у тваіх вачах.

— ?

Твар напаўняўся чырванню, але, на радасць, у цемры Вадзім нічога не ўбачыў.

— Я адчуваю, што ты іншая. Не ведаю, чаму. Гэта так, я не хлушу.

Я не ведала, што адказаць.

Пад'ехала «сотка», і ён павольна пакіраваўся. Мы адначасова павярнуліся, і нашы позіркі сутыкнуліся — гэта замест «да сустрэчы».

Я пайшла да метро. Мяне зноў скаваў сум. Васкавыя твары глядзелі ў адну кропку. Мужчына апусціў галаву, склаў рукі і заснуў. Каля яго — жанчына гадоў трыццаці, у светлым кававым паліто, на пальчыку — залаты пярсцёнак, здаецца, з брыльянтам. Яе позірк дакранаўся да рук і сумкі. Я так і не ўбачыла колеру вачэй гэтай прыгажуні.

У інтэрнаце мной авалодала меланхолія. Паспяшалася ў ванную — вельмі хацелася пагрэцца. «Не захварэць бы…» На руках — быццам чырвоныя скураныя пальчаткі. А ўсярэдзіне, дзесьці ў таямнічых пакойчыках душы, штосьці застыла — блакітнае і халоднае. Яно не мае пэўнай формы, не нагадвае шар ці куб, але маленькае і цвёрдае, здаецца, фарфоравае. Думкі, думкі… Хаос. Думкі, думкі…

Я павярнула металічныя кранікі і падставіла пальцы. Авальнае ружовага колеру мыла з пахам суніц перакочвалася з рукі ў руку. Быццам белы крэм — сляды «ружовага ачышчэння», — уцірала ў рукі. Вада і мыла — каханыя. Але як толькі з'явіцца пасрэднік, чалавек са сваёй энергетыкай, — пальецца шэрая каламутная вадкасць.

Павуцінка марозу пачала знікаць. Але стала балюча. Адчула сябе лялькай, якую перашываюць, — быццам іголкі дакраналіся да рук. Цёплая вада сагравала.

...З вачэй колеру сапфіру скацілася сляза.



Зусім нядаўна мы адзначалі 125 гадоў з дня нараджэння Сяргея Палуяна. Мы — гэта літаратурная супольнасць Беларусі ў цэлым і «ЛіМ» у прыватнасці.

І вось тэма займела працяг! Даследчыкі Вячаслаў Рагойша і Таццяна Кабржыцкая прапануюць вашай увазе інтэрв'ю з пляменніцай (!) Сяргея Палуяна Зінаідай Уладзіміраўнай Дзярабінай. Гэта не проста ўспаміны і пераказ даўно пачутага, амаль забытага, — гэта спроба вымалеваць сапраўдны радавод Палуянаў. Акрамя таго, выявілася, што і дата нараджэння Сяргея Епіфанавіча іншая. Хтосьці скажа: не такая гэта істотная папраўка да ўжо вядомага. Але ўявіце: колькі яшчэ фактаў, дат, штрыхоў застаюцца схаванымі пад напластаваннямі другарадных успамінаў. А колькі іх знікае разам са сваімі гаспадарамі — назаўсёды!..

Як вы пабачыце, сёння прозвішча Палуян таксама засталося адно ўспамінам. Сяргей сышоў, не пакінуўшы прамых нашчадкаў. Яго брат Рыгор трагічна загінуў разам з жонкай, а пра дзяцей Дзмітрыя, яшчэ аднаго брата, нічога не вядома. І ўсё ж...

# Зінаіда Дзярабіна, «Сяргей быў вельмі

**Сяргей Епіфанавіч Палуян (20.X.1890, Брагін — 7.IV.1910, Кіеў) не перастае заставацца светлай легендай нашай літаратуры. Быццам знічка, ярка ўспыхнуў ён у небе беларускага прыгожага пісьменства і тут жа, у няпоўных дваццаць гадоў, згарэў, пакінуўшы пасля сябе надзею ў прыход яснага дня духоўнага адраджэння роднага народа. Не дзіва, што жыццё і смерць Палуяна выклікалі такі жывы водгук, бадай, ва ўсіх лепшых тагачасных беларускіх пісьменнікаў — Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Цішкі Гартнага, Ядвігіна Ш., Алеся Гурло...**

Зрэшты, чыста легендарнага ў дачыненні да Сяргея Палуяна становіцца ўсё меней. Дакладней, высокая легендарнасць застаецца, але яна ўсё больш пачынае абапірацца на рэальнасць, на канкрэтныя, зямныя факты...

У свой час мы падрыхтавалі і выдалі ў «Мастацкай літаратуры» кніжку С. Палуяна «Лісты ў будучыню» (1986 г.). Дзякуючы ёй даступныя для чытачоў сталі і творы пісьменніка, і многія факты яго біяграфіі. Нам жа пашчасціла расшукаць яшчэ і трох родных сясцёр Сяргея — Зінаіду, Людмілу і Ангеліну!

Тады ж у Ленінградзе мы пазнаёміліся з роднай пляменніцай Сяргея (дачкой Зінаіды) Зінаідай Уладзіміраўнай і яе мужам Сяргеем Мікалаевічам Дзярабіным. Ленінградскія блакаднікі, ветэраны працы, людзі высакародных маральных прынцыпаў, шчырыя сябры Беларусі і беларусаў, выразныя аптымісты, яны годна пражылі нялёгкае жыццё: у наступным годзе ім спаўняецца па 90!

Карыстаючыся нагодай — «Мастацкая літаратура» абяцае неўзабаве перавыдаць кнігу С. Палуяна ў значна дапоўненым варыянце, — мы звярнуліся да Зінаіды Уладзіміраўны з просьбай распавесці пра яе, а значыць, і пра самога Палуяна, родзічаў і сваякоў. Як кажуць у народзе, яблык ад яблыні нялёка падае. Сяргей, калі б пражыў больш за дваццаць, мог бы паўтарыць лёс некаторых з іх...

**— Зінаіда Уладзіміраўна, мы з вамі сустракаемся ў час юбілею Сяргея Палуяна. 19 кастрычніка спаўняецца 125 год з дня яго нараджэння…**

— Адразу ўдакладню дату нараджэння Сяргея. Бадай, ва ўсіх даведніках і ва ўкладзенай вамі кніжцы «Лісты ў будучыню» ў тым ліку (скажу шчыра: выдатнай кніжцы!) даецца крыху недакладная дата: 7 кастрычніка — па старым стылі, значыць, 19 — па новым. Разумею, адкуль яна ўзятая: з царкоўнага запісу пра смерць Сяргея. Але калісьці імёны дзецям давалі па святцах. Дзень Сяргея — 8 кастрычніка, па новым стылі — 20. У гэты дзень ён і нарадзіўся. Такую дату называла мая мама.

> *«Калі Канстанцін і Яўгенія вырашылі ажаніцца, Ганна і Мікалай былі ўжо жанатыя, і праваслаўная царква рэзка запярэчыла супраць іх шлюбу. Тады Канстанцін паехаў у Пецярбург у Свяшчэнны Сінод, дзе папрасіў дазволу на шлюб з Яўгеніяй Палуян. Аднак толькі пасля таго, як ён прыстрашыў царкоўнікаў пераходам у каталіцызм, Сінод даў згоду на вянчанне».*

**— Што яшчэ пра Сяргея Палуяна прыгадвала вашая маці?**

— Мама, Зінаіда Епіфанаўна Палуян, па мужу Каракіна (1894, Брагін — 1985, Ленінград), часта распавядала пра сваё дзяцінства, праведзенае ў Крышычах разам з братамі і сёстрамі. І заўсёды ў яе аповедах згадваўся ці нават быў галоўнай дзейнай асобай брат Сяргей. Ён быў старэйшы за маму на чатыры гады, і яны былі найбольш блізкімі сярод усіх братоў і сясцёр. Мама часта згадвала іх дзіцячыя гульні. Асабліва шмат расказвала пра ім прыдуманую гульню ў «хлопчыкі». Гэта былі невялікія палачкі-шчэпачкі, якія сімвалізавалі розных людзей. Загортвалі тыя палачкі ў каляровыя анучкі, завязвалі ніткамі. Прыдумвалі кожнаму сваю біяграфію. Усё павінна было быць як у сапраўднасці, у жыцці. Хлопчыкі працавалі ў полі, у агародзе, на сенажаці: касілі сена, хадзілі ў лес у грыбы і ягады, гатавалі ежу...

У мамы была выдатная памяць да канца жыцця. І яна часта чытала мне вершы на беларускай мове, у тым ліку Тараса на Парнасе. Мама знаходзілася пад вялікім уплывам Сярожы. Ён вучыў яе чытаць, прывіў ёй любоў да ведаў, да кніг, культуры. У іх дома не было хатняй бібліятэкі, і Сяргей прывозіў кнігі з Мазыра, дзе ў той час вучыўся.

У 1905 годзе з Мазырскай прагімназіі яго перавялі ў Мітаўскую мужчынскую гімназію, а мама толькі пайшла ў першы клас тамтэйшай жаночай гімназіі. Жылі тады яны ўчатырох — Ганна, Яўгенія, Зінаіда і Сяргей — у пансіёне, у нямецкай сям'і. Там усё было надта строга і размерана, з нямецкай скрупулёзнасцю. Як сама гаспадыня гаварыла, усё павінна было быць «цырліхманірліх». А Сяргей быў вельмі ўпарты, мэтанакіраваны, заўсёды даводзіў сваё. І стасункі з гаспадыняй у яго склаліся вельмі няпростыя...

Ад Сяргея мама даведалася пра рэвалюцыйныя падзеі 1905 года, пра рэвалюцыйныя настроі яго самога і пра тое, што ён знаходзіўся ў гушчыні падзей.

Бацькі доўга не гаварылі дзецям пра смерць Сяргея. Мама казала, што бацька Епіфан Іванавіч забараняў яго ўпамінаць, а маці Аляксандра Дзмітрыеўна схавала некалькі ягоных рэчаў і тайна ад усіх захоўвала. У свой апошні прыезд у Крышычы мама выпрасіла ў яе падушку і яшчэ пару рэчаў Сяргея і ўсё жыццё да самай смерці спала толькі на яго падушцы. Гэтую падушку пасля яе адыходу з жыцця мы перадалі ў Дзяржаўны літаратурны музей Максіма Багдановіча.

**— А што вы ведаеце пра іншых блізкіх родзічаў Сяргея Палуяна і іх нашчадкаў?**

— Свой аповед пачну з сям'і **Ганны Епіфанаўны Палуян, па мужу Шалінай** (1886, Брагін — 1963, Рыга). З цёцяй Анютай я пазнаёмілася ў канцы 1950-х гг. Да вайны ўся яе сям'я жыла ў «буржуазнай» Рызе, і мае бацькі з імі не кантактавалі і не перапісваліся. Цёця Анюта не працавала — выхоўвала траіх дзяцей. Мужа яе, Мікалая Іванавіча Шаліна (1886 — 1942), я ніколі не бачыла. Ведаю, што ён скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта і быў у Рызе суддзёй. У 1940 г., ужо ў савецкай Латвіі, як і многія ранейшыя суддзі і адвакаты, ён быў рэпрэсіраваны і памёр у Салікамску. У Ганны Епіфанаўны і Мікалая Іванавіча нарадзілася трое дзяцей: Анатоль (1906 — 1974), Наталля (1909 — 1998) і Уладзімір (1911 — 1925). Ганна Епіфанаўна з 1940 і па 1954 г. таксама знаходзілася ў высылцы ў Сібіры.

Анатоль скончыў юрыдычны факультэт Латвійскага ўніверсітэта, быў вельмі адукаваны чалавек, кніжнік. У яго хатняй бібліятэцы налічвалася звыш 5000 тамоў. Ён быў аматар-краязнавец, і калі мы з мужам прыязджалі ў Рыгу, заўсёды вадзіў нас, абавязкова пехатой, па старой Рызе ганзейскага часу, па горадзе XVIII, XIX і XX стст., расказваў ледзь не пра кожны дом: згадваў гісторыю, архітэктараў, жыхароў… Яго веды, эрудыцыя нас заўсёды прыемна ўражвалі. Апрача Рыгі мы бывалі з ім у многіх мясцінах Латвіі — Сігулдзе, Цэсісе, Лігатне, Тукумсе, у казачным горадзе Талсі, і ён шмат расказваў пра гэтыя мясціны.



Фота А. Капяды.

*Святкаванне 95-гадовага юбілею Сяргея Палуяна ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Выступае Таццяна Кабржыцкая. Сядзяць у 1-м радзе (справа налева): Сяргей Дзярабін, Ангеліна Палуян, Зінаіда Дзярабіна, Аляксей Кулакоўскі, Іван Шамякін, Вячаслаў Рагойша; 2-і рад: Ядвіга Раманоўская, Карлас Шэрман, Анатоль Грачанікаў, Рыгор Барадулін, Алег Лойка, Сяргей Панізнік. Мінск, 1985 г.*

Яго жонка, Аляксандра Кірылаўна Шаліна (Мункевіч, 1908 — 1997), па адукацыі таксама юрыст. Вельмі жыццярадасная, кампанейская, ніколі не сумавала, заўжды ў цяжкую хвіліну прыходзіла на дапамогу. У Анатоля Мікалаевіча і Аляксандры Кірылаўны нарадзіліся дзве дачкі: Анастасія (у 1931 г.) і Яўгенія (у 1936 г.). Анастасія скончыла Рыжскае педвучылішча. Працавала выхавацелем, метадыстам і загадчыкам дзіцячага сада. Яе муж, Анатоль Аляксандравіч Меркур'еў (1932 — 2011), — выпускнік Калінінградскага рыбнага інстытута. Быў у Рызе дырэктарам суднамеханічнага завода, затым — галоўным інжынерам латвійскага вытворчага аб'яднання рыбнай прамысловасці.

> *«У Ганны Епіфанаўны ў Юрмале было лецішча, і штогод, пачынаючы з другой паловы 1940-х, там збіраліся ўсе сёстры і іх сем'і. Якія былі вечары!.. На сямейныя святы сталы накрывалі проста ў садзе, бо за сталамі збіраліся ад 25 да 40 чалавек. А якія шматлюдныя бывалі дні нараджэння, юбілеі, вяселлі!.. І так працягвалася больш як сорак год…»*

Іх сын Юрый (з 1954 г.) — загадчык кафедры Рыжскага тэхнічнага ўніверсітэта, прафесар, доктар габілітаваны інжынерных навук. Жонка Юрыя — Меркур'ева (Карнеева) Галіна Васільеўна (з 1953 г.) — прафесар Інстытута інфармацыйных тэхналогій Рыжскага тэхнічнага ўніверсітэта, доктар тэхнічных навук. Дачка Алена (з 1985 г.) — старшы аналітык фірмы «Брусель». Скончыла Рыжскі тэхнічны ўніверсітэт (эканамічны факультэт) і магістратуру Магдэбургскага ўніверсітэта (Германія), жыве ў Брусселі.

Другая дачка, Яўгенія, была замужам за савецкім афіцэрам Якавам Ізотавічам Строганавым (1929 — 1978) і разам з дзецьмі і мужам увесь час падарожнічала па месцах яго службы ў СССР. Вучылася завочна ў Рыжскім універсітэце, працавала ў Прабірнай палаце Прыбалтыкі.

У іх нарадзіліся дзве дачкі — Таццяна (у 1961 г.) і Вольга (у 1969 г.). Таццяна і яе муж Ігар Раймондавіч Енатс былі знаёмыя з дзіцячага сада, скончылі Латвійскі тэхнічны ўніверсітэт, сталі інжынерамі-будаўнікамі. Іх сын Яўгеній (з 1988 г.) вучыўся на эканамічным факультэце Латвійскага ўніверсітэта. Вольга Строганава закончыла хімічны факультэт таго ж універсітэта, а таксама фінансавы факультэт Інстытута грамадзянскай авіяцыі і медыцынскі каледж у Ізраілі. У Ізраілі цяпер і жыве з мужам Яфімам Бен-Давід і дзецьмі Шарон і Рон.

Наталля Мікалаеўна Меншыкава (Шаліна; 1909 — 1998) закончыла Інстытут замежных моў. Пасля вайны працавала выхавацелем у рамесным вучылішчы, дзе вяла групу з дзевяці сірот з Беларусі, бацькі якіх загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Усю сябе аддавала дзецям, была вельмі клапатлівай і душэўнай асобай. Пра гэта сведчыць надрукаваны вялікі матэрыял у адным з рыжскіх рэспубліканскіх выданняў.

Яе муж Мікалай Гаўрылавіч Меншыкаў (1908 — 1988), выпускнік Латвійскага ўніверсітэта, кандыдат сельскагаспадарчых навук, загадваў лабараторыяй у сельскагаспадарчай акадэміі ў Сігулдзе. У сям'і Меншыкавых гадаваліся дзве дачкі — Алена (з 1939 г.) і Ганна (з 1944 г.). Алена Мікалаеўна Меншыкава скончыла Рыжскае музычнае вучылішча па класе фартэпіяна. Працавала ў музычнай школе педагогам і канцэртмайстрам. Муж яе, Мікалай Гаўрылавіч Дзядкоў (з 1940 г.), скончыў Рыжскі электрамеханічны тэхнікум, працаваў тэхнолагам на шэрагу заводаў радыёбудавання. Сын Алены ад першага шлюбу Уладзімір Эдуардавіч Муран (з 1961 г.) — выпускнік Рыжскай кансерваторыі па класе скрыпкі. Працаваў у аркестры рыжскага опернага тэатра (першая скрыпка).

# пляменніца Сяргея Палуяна:
# ўпарты, заўсёды даводзіў сваё...»

Другая дачка Меншыкавых, Ганна Мікалаеўна, скончыла Рыжскае педагагічнае вучылішча па спецыяльнасці «Харавы дырыжор», увесь час працавала ў сярэдняй школе. Яе муж, Валянцін Міхайлавіч Галінскі (1952 — 2007), па спецыяльнасці цеплатэхнік. Іх сын Міхаіл (з 1972 г.) цяпер працуе таксістам. Дочкі-блізняты Наталля і Вольга (з 1980 г.) займаюцца хатняй гаспадаркай.

> *«Мама выпрасіла падушку і яшчэ пару рэчаў Сяргея і ўсё жыццё да самай смерці спала толькі на яго падушцы».*

**— У Сяргея Палуяна была яшчэ адна старэйшая родная сястра — Жэня...**

— Яўгенія Епіфанаўна (1889, Брагін — 1972, Рыга) і Ганна Епіфанаўна былі замужам за роднымі братамі Шалінымі Канстанцінам і Мікалаем. Сёстры Палуян пазнаёміліся з братамі Шалінымі яшчэ ў гімназіі ў Мітаве (Елгава). Калі Канстанцін і Яўгенія вырашылі ажаніцца, Ганна і Мікалай былі ўжо жанатыя, і праваслаўная царква рэзка запярэчыла супраць іх шлюбу. Тады Канстанцін паехаў у Пецярбург у Свяшчэнны Сінод, дзе папрасіў дазволу на шлюб з Яўгеніяй Палуян. Аднак толькі пасля таго, як ён прыстрашыў царкоўнікаў пераходам у каталіцызм, Сінод даў згоду на вянчанне.

Летам 1936 г. мама паехала ў Кіеў і ўпершыню ўзяла мяне з сабой. Там я пазнаёмілася з усёй сям'ёй цёці Жэні, а таксама з цёткамі Людмілай і Ангелінай… Канстанцін Іванавіч Шалін (1888 — 1942) закончыў Кіеўскі політэхнічны інстытут, стаў інжынерам-пуцейцам і займаў кіраўнічыя пасады ва ўпраўленні Паўднёва-Заходняй чыгункі. У сярэдзіне 1930-х гг. гэта ўпраўленне знаходзілася ў Адэсе, і мяне адпраўлялі туды на ўсё лета, якое я праводзіла на Чорным моры разам з іх сям'ёй.

Бываючы ў Кіеве, мы заўсёды наведвалі магілу Епіфана Іванавіча Палуяна на Лук'янаўскіх могілках. Побач з яго магілай былі пахаваныя браты Аляксандры Дзмітрыеўны — Сцяпан, а хто другі — не помню. З намі на могілкі ездзіла і жонка Сцяпана — Вольга Аляксандраўна. Канстанцін Іванавіч, які памёр у 1942 г., пахаваны на гэтых жа могілках.

Яўгенія Епіфанаўна ніколі не працавала. Але ў 1930-я гг. яна надавала вельмі шмат увагі грамадскай працы. Тады ў краіне разгарнуўся грамадскі рух «Жонкі камандзіраў», і цёця Жэня была адным з яго арганізатараў сярод чыгуначнікаў. Шмат яна ездзіла па гарадах, чыгуначных станцыях і паўстанках Паўднёва-Заходняй чыгункі, займалася арганізацыяй быту сямей чыгуначнікаў. Падчас вайны ўся сям'я аказалася ў акупацыі ў Кіеве, і, баючыся, што немцы арыштуюць іх зяця, Сцяпана Антонавіча Кавуна, скрыпача, педагога, камуніста і віднага партыйнага работніка, усе члены сям'і з'ехалі ў Адэсу, дзе акупацыйны рэжым ажыццяўлялі румыны. Затым яны знайшлі прытулак на румынскай тэрыторыі, у горадзе Тэмішаара. Пасля вайны вярнуліся ў СССР і спыніліся на дваццаць пяць год у Кішынёве.

У Яўгеніі Епіфанаўны і Канстанціна Іванавіча было двое дзяцей — Яўгеній (1911—?) і Ніна (1913 — 1983). Яўгеній закончыў Кіеўскі політэхнічны інстытут, працаваў інжынерам-электрыкам. Быў жанаты некалькі разоў. Пасля вайны асталяваўся ў Маскве, працаваў на заводзе. У канцы жыцця (канец 1970-х гг.) пераехаў у Рыгу, дзе і памёр. Ніна і яе муж Сцяпан Антонавіч Кавун закончылі Кіеўскую кансерваторыю, Сцяпан — па класе скрыпкі, Ніна — фартэпіяна. Абодва выкладалі ў кансерваторыях Кіева і Кішынёва. Ніна была педагогам і канцэртмайстрам. Займалася з лепшымі малдаўскімі спевакамі. А Сцяпан Антонавіч праявіў сябе як выдатны дзіцячы педагог, і многія знакамітыя скрыпачы (Ігар Ойстрах, Валерый Клімаў і інш.) у дзяцінстве вучыліся ў яго. Пасля выхаду Ніны Канстанцінаўны на пенсію сям'я ў 1979 г. пераехала ў Рыгу.

У Рызе іх дачка Кіра (з 1948 г.) закончыла кансерваторыю па класе фартэпіяна і да пенсіі выкладала спачатку ў музычным вучылішчы ў Елгаве, пасля ў музычнай школе ў Рызе. Муж Кіры Вігонт Аскаравіч Крымеліс (1930 — 2012), музыка-акардэаніст, пяцьдзясят гадоў выкладаў у Рыжскай музычнай школе. У Кіры двое дзяцей: Дзмітрый (з 1972 г., ад першага шлюбу) і Андрыс (з 1983 г.). Абодва — маракі.

**— Вось як інтэрнацыянальна разгалінавалася радаслоўнае дрэва Палуянаў! Цікава, як склаўся лёс малодшых сясцёр Сяргея — Людмілы і Ангеліны?**

— **Людміла Епіфанаўна Палуян** (1895, в. Астрагляды Брагінскага р-на — 1985, Кіеў) усё жыццё працавала, пачынаючы ажно з 1920-х гг., машыністкай у дзяржбанку Украіны. Да вайны яна і жыла насупраць дзяржбанка ў Кіеве, на Інстытуцкай вуліцы, у вялізным мураваным доме, які называлі Домам Гінзбурга. У верасні — кастрычніку 1941 г. немцы ўзарвалі увесь цэнтр Кіева, не стала і гэтага дома. Цёця пасялілася на Падвальнай вуліцы каля Залатых варот.

**Ангеліна Епіфанаўна Палуян** (1898, в. Крышычы Брагінскага р-на — 1996, Рыга) усё жыццё пражыла разам з сям'ёй роднай сястры Яўгеніі і была з ёй ва ўсіх вандроўках і жыццёвых перыпетыях. Да вайны працавала на швейнай фабрыцы. Сёстры былі надзвычай дружныя. Усе — выдатныя кулінаркі. Яны казалі, што кулінарскія здольнасці ў іх закладзеныя мамай Аляксандрай Дзмітрыеўнай. У мяне захоўваецца нямала маміных рэцэптаў — далікатэсы на Вялікдзень, Масленіцу, пірагі...



Фота С. Дзярабіна.

*Тры сястры Сяргея Палуяна: Ганна, Яўгенія і Зінаіда. Рыга, 1957 г.*

У Ганны Епіфанаўны ў Юрмале (Асары) было лецішча, дзе штогод, пачынаючы з другой паловы 1940-х гг., збіраліся ўсе сёстры і іх сем'і. Якія там былі цікавыя вечары! Цёця Жэня і цёця Анюта вечна спрачаліся, чый муж лепшы. А на сямейныя святы сталы накрывалі проста ў садзе, бо збіралася ад 25 да 40 чалавек. А якія шматлюдныя бывалі дні нараджэння, юбілеі, вяселлі!.. І так працягвалася больш як сорак год…

**— А ці ведаеце вы што-небудзь пра лёс братоў Сяргея — Дзмітрыя і Рыгора?**

— На жаль, не. І мая маці, напэўна, не ведала.

**— Вы кантактуеце з родзічамі цяпер?**

— Апошні раз мы з мужам былі ў Рызе ў кастрычніку 1991 года. Тады родзічы нас строга папярэдзілі: не карыстацца для праезду на гарадскім транспарце нашымі льготамі блакаднікаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. У латышоў гэтыя льготы адмянілі яшчэ да распаду СССР…

Да нас у Ленінград неаднаразова прыязджалі ўсе нашы сваякі. Пасля 1991 г. сустрэчы сталі радзейшымі. Часцей кантактуем па тэлефоне ці скайпе.

Ганна Епіфанаўна, Яўгенія Епіфанаўна, Ангеліна Епіфанаўна, Анатоль Мікалаевіч, Аляксандра Кірылаўна, Яўгеній Канстанцінавіч, Ніна Канстанцінаўна, Наталля Мікалаеўна, Сцяпан Антонавіч, Мікалай Гаўрылавіч — усе спяць вечным сном у Рызе на Іванаўскіх могілках. Вечная ім памяць!

**— А з Беларуссю якая ў вас сувязь?**

— Напрыканцы 1970-х мы з мужам адпачывалі ў Беларусі, у Крупках. Захацелі пабываць на радзіме маёй мамы, яе братоў і сясцёр. Было гэта ў пачатку верасня. Сталі распытваць мясцовых жыхароў пра дом, дзе жылі Палуяны. Відаць, усе, да каго мы звярталіся, былі нашыя аднагодкі ці маладзейшыя за нас. Таму пра Палуянаў нічога сказаць не маглі. Мы хацелі праехаць праз усе Крышычы, але нам не параілі гэта рабіць: дарога вельмі размытая, а ў сярэдзіне вёскі — агромністая «Палуянава лужа»: на «Волзе» там загразнем. Мы не сталі рызыкаваць і паехалі ў Юравічы. Знайшлі там старыя могілкі, доўга хадзілі, аднак магілу маёй бабулі, пахаванне 55-гадовай даўнасці, так і не адшукалі...

У 1989 годзе наведалі Літву, былі праездам у Вільнюсе. На ўскраіне горада пабывалі ў маёнтку Маркучай, дзе правёў апошнія шэсць гадоў свайго жыцця малодшы сын Аляксандра Пушкіна Рыгор. Маёнтак аддзелены ад горада віхлястай рэчкай Вільняле-Віліяй. У старым парку з векавымі ліпамі і клёнамі стаіць іх панскі дом. Першы паверх дома — музей Пушкіна. А другі — літаратурны музей, прысвечаны ў многім беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя, газетам «Наша Ніва» і «Наша Доля», сувязям беларускіх пісьменнікаў таго часу з Літвой. У «Нашай Ніве» з вялікай прыемнасцю мы ўбачылі публікацыі Сяргея Палуяна.

У снежні 1985 года дзякуючы вашаму запрашэнню мы з Сяргеем Мікалаевічам пабывалі і ў Мінску, і ў Ракаве. Разам з Ангелінай Епіфанаўнай узялі ўдзел у літаратурнай вечарыне ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, прысвечанай 95-годдзю з дня нараджэння

> *«Мама знаходзілася пад вялікім уплывам Сяражы. Ён вучыў яе чытаць, прывіў ёй любоў да ведаў, да кніг, культуры. У іх дома не было хатняй бібліятэкі, і Сяргей прывозіў кнігі з Мазыра, дзе ў той час вучыўся».*

і 75-годдзю з дня смерці Сяргея Палуяна. Выступалі самі, слухалі выступленні беларускіх пісьменнікаў Івана Шамякіна, Рыгора Барадуліна, Алега Лойкі, Аляксея Кулакоўскага, Сяргея Панізніка ды іншых.

А ў 1990 годзе зноў наведалі Мінск, калі ў Доме Купалы святкавалі 100-гадовы юбілей Сяргея Палуяна. З таго часу засталіся не толькі прыемныя ўспаміны, але і памятныя здымкі... На жаль, мы ўжо не такія мабільныя, каб яшчэ раз прыехаць у краіну Палуянавых продкаў. Але Беларусь па-ранейшаму, па-сваяцку любім, з радасцю ўспрымаем звесткі пра поспехі і здзяйсненні вашай маладой незалежнай дзяржавы...

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ,**
**Вячаслаў РАГОЙША**

### Замест пасляслоўя

Як ужо згадвалася ў «ЛіМе», беларускі педагог і краязнавец Якаў Анапрэенка выявіў некаторыя падрабязнасці біяграфіі братоў Дзмітрыя і Рыгора Палуянаў. Вядома, што пасля 1917 года яны эмігрыравалі на Захад. Дзмітрый перад вайной вярнуўся ў Еўропу, жыў у Галандыі і, па ўсёй верагоднасці, загінуў падчас вайны. Што да Рыгора, які быццам бы «жыў у Лацінскай Амерыцы, працаваў там на нафтавых промыслах і ў канцы 1920-х гг. памёр ад сухотаў» (сведчанне А. Шаліна), то вось новыя звесткі, атрыманыя Я. Анапрэенкам. У Рускім кадэцкім некропалі Буэнас-Айрэса ёсць мемарыяльная дошка з надпісам: *«Полуян Григорий Епифанович, Георгиевский кавалер. Крымский Кадетский корпус, 4 выпуск (1924 г.), вице-унтер-офицер. С гимназической скамьи вступил в ряды Добровольческой Армии. Награждён Георгиевским крестом 4-ой степени. Галлиполиец. В Югославии, после окончания Кадетского корпуса, получил специальность инженера в Загребском университете. В Аргентину переехал в 1949 году. Работал на руднике слюды. Погиб 28.2.1952 при утечке газа в руднике «Сельва», Альта Грасия, вблизи г. Кордобы».*

Трагічную смерць жонкі Рыгора Палуяна Зінаіды, яго самога і яе брата згадвае ў сваіх успамінах старшыня Кадэцкага аб'яднання ў Аргенціне І. Андрушкевіч: *«Судьба роковым образом оборвала ее жизнь. При катастрофе в руднике слюды, где работали ее муж и брат, она мчится спасать их и умирает от газового удушения вместе с ними, совершая самый высший христианский завет: нет высшей радости, как положить жизнь свою за други своя. Так 28 февраля 1952 г. закончилась тяжелая жизнь Зинаиды Михайловны Полуян».*

# Што аўтару патрэбна?

**Тэрытарыяльнае дзяленне літаратуры можна назіраць з даўніх часоў. Так, у літаратуры старажытнай Грэцыі вылучаліся ianiйская, атычная, дарыйская. У сярэднявечнай Італіі выдзяляюцца сіцыліянская і тасканская літаратуры. У новы час у Германіі, якая распадалася на мноства княстваў і абласцей, таксама назіралася дыферэнцыяцыя: гісторыкі мовілі пра швабскіх паэтаў і швабскую школу, енскіх рамантыкаў. І ў Францыі, і ў Англіі, і ў Расіі існавалі мясцовыя групы літаратараў, творчасць якіх была звязана з асаблівасцямі краю. Такое раздзяленне прывяло ў рэшце рэшт і да тэарэтычнага пабудавання літаратурнага працэсу — «рэжыяналізму».**



Кожная нацыянальная літаратура складаецца з рэгіянальных кампанентаў, якія адыгрываюць у ёй даволі каштоўную ролю. Пісьменнік, які нарадзіўся, жыве і піша ў пэўным рэгіёне, нясе след гэтага рэгіёна, адпаведнага ладу жыцця.

Гродзенскі, ці, як яго часта называюць, Прынёманскі, рэгіён таксама мае адметныя рысы жыцця, што ўплывае на літаратурна-мастацкую творчасць. Суседства з Польшчай і Літвой, штодзённае ўзаемадзеянне з людзьмі розных нацыянальнасцей — палякамі, яўрэямі, татарамі ды інш., якія мірна і дружна спакон вякоў жывуць на тэрыторыі вобласці, шматканфесіянальнасць — усё гэта паспрыяла таму, што на Гродзеншчыне склалася літаратура, якая раскрывала гэтыя асаблівасці, грунтуючыся на мясцовым матэрыяле. Прынамсі, яго на Гродзеншчыне дастаткова. Нездарма, напэўна, прынёманскі край даў свету пісьменнікаў, якімі ганарыцца ўся Беларусь. Гэта Адам Міцкевіч і Эліза Ажэшка, Францішак Багушэвіч і Цётка, Янка Брыль і Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк і Адам Мальдзіс, Уладзімір Калеснік і Алег Лойка… Яны і шматлікія іх паплечнікі паказалі жыццё свайго краю і прадставілі беларуса-заходніка вельмі праўдзіва і поўна.

Рэгіянальная літаратура — гэта не літаратура другога гатунку, а частка цікавай і багатай беларускай нацыянальнай літаратуры, якая адлюстроўвае спецыфіку свайго краю. Літаратура рэгіёнаў дае рэдкую магчымасць увачавідкі назіраць, як прыгожае пісьменства асвойвае рэчаіснасць, фарміруе ў чытача, асабліва маладога, адчуванне таго, што літаратура — частка агульнай культуры — стваралася і ствараецца тут і цяпер.

> *За дзесяць гадоў існавання Саюза пісьменнікаў Беларусі, у тым ліку Гродзенскага абласнога аддзялення, у гродзенскай літаратуры з'явіліся асобы, творчасць якіх атрымлівае высокія адзнакі ў агульнабеларускім літаратурным асяроддзі.*

Выхаванне грамадзяніна, маральных якасцей, патрыятызму — ці не галоўная задача, якая павінна стаяць перад пісьменнікам. У гэтым вялікую ролю адыгрывае непасрэднае знаёмства аўтара з чытачамі. Таму ў гродзенскай абласной пісьменніцкай арганізацыі мэтанакіравана вядзецца праца па папулярызацыі твораў мясцовых аўтараў, арганізуецца шмат сустрэч, прэзентацый, творчых вечарын з чытачамі розных узроставых катэгорый — ад наведвальнікаў дзіцячых садкоў да ветэранаў і састарэлых людзей.

А вясною, напярэдадні святкавання 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, адбыўся так званы «тур грамадзянскай паэзіі» па трох раёнах Гродзенскай вобласці, падчас якога пісьменнікі сустрэліся са школьнікамі, бібліятэкарамі, настаўнікамі, работнікамі культуры, журналістамі Скідзеля, Шчучына, Мастоў і аграгарадка Васілішкі.

Кожная сустрэча з пісьменнікам і яго творчасцю — гэта своеасаблівы ўрок па рэгіянальнай літаратуры. Мэта такіх урокаў — прыцягнуць увагу людзей да культуры, гісторыі, прыроды, асоб роднага краю, раскрыць унікальнасць Прынямоння і, зразумела ж, пазнаёміць з літаратурным жыццём Гродзеншчыны і новымі кнігамі.

За дзесяць гадоў існавання Саюза пісьменнікаў Беларусі, у тым ліку Гродзенскага абласнога аддзялення, у гродзенскай літаратуры з'явіліся асобы, творчасць якіх атрымлівае высокія



*Падчас пасяджэння экспертнай камісіі па прысуджэнні літаратурнай прэміі імя Цёткі. Сакавік 2013 г.*

адзнакі ў агульнабеларускім літаратурным асяроддзі. Сёння лідзіруюць празаік з Астраўца Ніна Рыбік, дзіцячы пісьменнік з Гродна Віктар Кудлачоў, паэт Мар'ян Дукса са Смаргоні, празаік Іван Пяшко са Шчучына, краязнаўца з Карэліч Святлана Кошур, публіцысты Уладзімір Ягоры-чаў і Валерый Чарапіца… Рэгіянальная асаблівасці найбольш ярка праяўляюцца ў творчасці такіх пісьменнікаў, як Пётр Сямінскі (раманы «Белае танга лёсу», «Шчасце заўжды наперадзе», «Камень залатых слёз» ды інш.); у лірыцы Ірыны Данік з Зэльвеншчыны, паэтэсы Алы Клемянок са Смаргоні, паэта Віктара Куца і дзіцячай пісьменніцы Ганны Скаржынскай-Савіцкай са Шчучына. Адчуваецца, як перарастае пісьменнік, які адлюстроўвае падзеі і настроі рэгіёна, у пісьменніка, які выказвае інтарэсы ўсяго народа.

Але рэгіянальная адасобленасць часта міжволі абумоўлівае сабой вузкасць светапогляду пісьменніка, а гэта аслабляе сацыяльную функцыю яго творчасці, ступень уплывовасці на чытацкую аўдыторыю.

Акрамя таго, у XX стагоддзі знізіўся ўзровень літаратуры ў агульным кантэксце масавай культуры. Магчыма, лозунг «Мастацтва павінна належаць народу», які прагучаў з вуснаў Уладзіміра Леніна ў першыя паслярэвалюцыйныя дні 1917 года, быў зразуметы не вельмі правільна. Ды і наогул, як высвятляецца, ён гучаў не гэтак.

Зніжэнне культуры да ўзроўню простага народа адбылося ва ўсіх відах мастацтва. У літаратуры прыкметамі яго становяцца стандартнасць, беднасць стылю, аднастайнасць жанру. Людзі пачынаюць думаць, што творчы працэс даступны і падуладны ўсім, што ён агульнадаступны. У правінцыі назіраецца тое самае. Іншы аўтар лічыць: дастаткова толькі апісаць працэс уборкі

> *Літаратура рэгіёнаў дае рэдкую магчымасць увачавідкі назіраць, як прыгожае пісьменства фарміруе ў чытача, асабліва маладога, адчуванне таго, што літаратура — частка агульнай культуры — стваралася і ствараецца тут і цяпер.*

хлеба ў адной асобна ўзятай гаспадарцы — і твор гатовы.

Перад многімі рэгіянальнымі пісьменнікамі і сёння стаіць пытанне: як не патануць сапраўднаму творцы ў моры актыўных літаратараў-аматараў? Як навучыць маладога чытача адрозніваць высокамастацкую літаратуру ад нізкапробнай? На словах даказваць — неэфектыўна. Выхад адзіны і самы што ні ёсць рацыянальны: уласным прыкладам, сваімі творамі. Адсюль узрастае адказнасць пісьменніка за кожнае слова, якое ён дэкларуе, за погляды, ідэі, адзнакі-ацэнкі, абагульненні, парады.

Ну, спытаеце вы, дык як жывецца пісьменніку ў рэгіёне? І што, наогул, патрэбна аўтару?

Было б ідэальна, каб пры аналізе твораў рэгіянальных пісьменнікаў, прадстаўленых на той ці іншы конкурс, або пры падрыхтоўцы рукапісу да выдання рэдактары і літаратурныя эксперты звярталі ўвагу на асаблівасці, звязаныя з рэгіянальнай прыналежнасцю. Каб не падганялі мову аўтара пад «цэнтральнае, сталічнае» гучанне і тым самым не выпалвалі з твора адметнасць і душу, паколькі кожная вобласць мае свае моўныя асаблівасці, дыялекты, гаворку, стыль пабудовы сказа і г. д.

Гэтым і цікавая рэгіянальная літаратура і чытачам, і навукоўцам-даследчыкам.

> *Рэгіянальная літаратура — гэта не літаратура другога гатунку, а частка цікавай і багатай беларускай нацыянальнай літаратуры, якая адлюстроўвае спецыфіку свайго краю.*

Пакуль што правінцыяльным аўтарам цяжка дастукацца да сталічных выдавецтваў. Многія махнулі рукою: маўляў, нікому да нас справы няма, іх там, у Мінску, сваіх гаць гаці.

Што да падтрымкі з боку чытачоў і ўлад, то ў Гродзенскім абласным аддзяленні СПБ з гэтым, здаецца, нармальна. На літаратурныя прэзентацыі людзі ідуць з ахвотай, пісьменнікі выдаюць штогод да дваццаці аўтарскіх кніг, намі зацікавіліся (за што мы невымоўна ўдзячны!) рэспубліканскія выдавецтвы «Беларусь», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, Выдавецкі дом «Звязда», «Народная асвета». Добрыя сувязі склаліся з рэдакцыямі часопісаў «Белая Вежа», «Маладосць», нашай галоўнай газетай «Літаратура і мастацтва», на старонках якой усё часцей стала гучаць слова з рэгіёнаў. Гэта слушны кірунак.

Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт, у прыватнасці галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі ў асобах Паула Скрабко і Аляксандра Вярсоцкага, спрыяе гродзенскім пісьменнікам канкрэтнымі справамі: пры фінансавай падтрымцы аблвыканкама выдаецца галоўны друкаваны орган Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ — літаратурны альманах «На Нёманскай хвалі»; падтрымліваецца і фінансуецца абласны конкурс рукапісаў імя Цёткі (А. Пашкевіч); выдаткоўваюцца грошы на выданне кніг асобных пісьменнікаў. Да Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне аблвыканкам фінансаваў зборнік твораў гродзенскіх аўтараў «У прыгаршчах Айчыны», у які — да гонару ўдзельнікаў — увайшло яшчэ і факсімільнае выданне Цёткі «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Ды і на іншыя нашы запыты супрацоўнікі аблвыканкама і гарвыканкама адгукаюцца станоўча, з разуменнем у большасці выпадкаў. Безумоўна, ёсць і невялікія праблемы, напрыклад, клопаты наконт залы, месца правядзення больш маштабных літаратурна-музычных прадстаўленняў. Затое абласная навуковая бібліятэка імя Я. Карскага — наша пастаянная прапіска. Камерныя мерапрыемствы праводзім там. А вось наконт вялікіх, масавых — давядзецца пастарацца, таму што мы дакладна ўсведамляем і кірункі дзейнасці абласной пісьменніцкай арганізацыі, і значнасць рэгіянальнай літаратуры як састаўной часткі агульнабеларускай, і ролю кожнага пісьменніка ў літаратурным працэсе Беларусі. Абласныя літаратары робяць разам з усімі агульную справу па асвеце грамадства, патрыятычным выхаванні моладзі, папулярызацыі праз свае творы роднага Прынёмання і ўсёй Беларусі, свядома спрыяюць стабілізацыі і кансалідацыі нашага шматнацыянальнага і шматканфесіянальнага рэгіёна, годна працягваюць рэгіянальныя літаратурныя традыцыі. А гэта дарагога каштуе.

**Людміла КЕБІЧ**

Кніжны свет

23 кастрычніка 2015 г.

*Прэзентацыя*

# Пакліканыя Атлантыдай

Навошта савецкія навуковыя караблі шукалі Атлантыду? Чаму фарміраваліся адмысловыя экспедыцыі для даследавання тунгускага феномена? Хто з айчынных пісьменнікаў прадказаў нанатэхналогіі і іншыя цуды сучаснай навукі? Адказы на гэтыя і многія падобныя пытанні можна знайсці ў кнізе доктара філалагічных навук Таццяны Шамякінай «Парадоксы часу, або Рамантыка савецкай навукі», што пабачыла свет сёлета ў выдавецтве «Чатыры чвэрці». Прэзентацыя выдання прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.



Таццяна Шамякіна прадстаўляе сваю новую кнігу «Парадоксы часу, або Рамантыка савецкай навукі».

XX стагоддзе — час найвялікшых навукова-тэхнічных адкрыццяў. Неверагодная радасць ахоплівала ўсіх жыхароў планеты падчас палёту першага чалавека ў космас. Не адно пакаленне даследчыкаў хвалявалі таямніцы Атлантыды, а многія загадкі нашай планеты застаюцца неразгаданымі і сёння. Дзякуючы Таццяне Шамякінай чытач мае магчымасць яшчэ раз прыгадаць (ці даведацца ўпершыню) значныя падзеі ў навуковым жыцці вялікай краіны СССР, адчуць настрой і дух неверагодных знаходак.

Гісторыю напісання кнігі «Парадоксы часу, або Рамантыка савецкай навукі» распавяла падчас прэзентацыі сама Таццяна Шамякіна:

— Гады тры таму ў часопісе «Нёман» выйшла серыя маіх артыкулаў з агульнай назвай «Як жыла эліта пры сацыялізме». Тыя, хто пазнаёміўся з публікацыямі, вельмі прасілі мяне напісаць працяг. У новай рабоце мне захацелася перадаць пафас пазнання, творчасці, імкнення да навукі, усяго таямнічага. Гэта нас цікавіла ў юнацтве. Думаецца, настрой, што чытаецца на старонках новай кнігі, будзе блізкім многім, бо такія пачуцці і памкненні — энтузіязм, духоўны пад'ём — былі характэрнай рысай некалькіх пакаленняў савецкіх навукоўцаў. Нам хочацца таксама, каб і моладзь больш ведала пра той час. Так, нам было складана, але прымітыўнымі тыя гады не назавеш. Гэтая кніга — не толькі пра мінулае, але і пра наш час, я імкнуся разбурыць некаторыя масмедыйныя міфы сучаснасці, карані якіх — у СССР.

Для выдавецтва «Чатыры чвэрці» бягучы год — час многіх знакавых праектаў. Так, да 250-гадовага юбілею Міхала Клеафаса Агінскага — падзея, якая занесена ў спіс памятных дат ЮНЕСКА — тут пабачылі свет мемуары творцы і кнігі яго нашчадкаў.

— Побач з гэтымі выданнямі не менш яркімі выглядаюць іншыя кнігі, у тым ліку — работа Таццяны Шамякінай «Парадоксы часу, або Рамантыка савецкай навукі». Тут таксама можна смела казаць пра ўнёсак у культуру Беларусі, бо традыцыі пісьменніка Івана Шамякіна, класіка нашай літаратуры, годна працягвае яго дачка, Таццяна Іванаўна, — зазначыла дырэктар і галоўны рэдактар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Лілія Анцух.

Новае даследаванне Таццяны Шамякінай выйшла ў межах серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога Саюза пісьменнікаў Беларусі». Яе куратар паэт Міхась Пазнякоў распавёў:

— У серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» зазвычай выходзяць зборнікі прозы ці паэзіі сталічных аўтараў, аднак кніга Таццяны Іванаўны — навукова-папулярная, публіцыстычная, ніяк не выбіваецца з агульнага шэрагу, хутчэй наадварот — упрыгожвае і паляпшае праект. Даследаванне вельмі цікавае: шырокі дыяпазон, мноства фактаў. Кніга арыентаваная на дасведчаную, падрыхтаваную аўдыторыю, аднак чытаецца лёгка і захапляе аўтарскім стылем, майстэрствам выкладаць факты.

Адметна, што пад вокладкай кнігі «Парадоксы часу, або Рамантыка савецкай навукі» змясцілася толькі частка багатых напрацовак Таццяны Шамякінай, прысвечаных тэме навуковых адкрыццяў савецкага часу і жыццю творчай і навуковай эліты. Таму можна спадзявацца, што хутка чытача чакае новая сустрэча са светам неверагодных дасягненняў і смелых гіпотэз.

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**

# Таямніцы стагоддзяў




Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь распачаў выпуск першага ў краіне музейнага дзіцячага часопіса. Маленькія чытачы разам з птушачкай Цікаўкай і хлопчыкам Васількам ужо зараз могуць выправіцца ў вандроўку па мінулых стагоддзях. Дастаткова толькі спампаваць першы нумар «Музейных вандровак» з сайта гістарычнага музея — і можна пачынаць падарожжа. Праект рэалізоўваецца ў межах акцыі «Музей дзецям з *Velcom*».

Аўтары часопіса ўпэўненыя: сумна чытачам не будзе. Тэмай першага выпуску «Музейных вандровак» стала Сярэднявечча. На 25 старонках новага электроннага выдання — шмат звестак пра розныя аспекты жыцця нашых продкаў у азначаны перыяд. Так, чытачы даведаюцца, хто такія рыцары, як праходзілі рыцарскія турніры, як называюцца розныя часткі даспеха і які ўнёсак зрабілі рыцары ў развіццё навукі і культуры. Васілёк і Цікаўка трапяць на сапраўдны баль, пазнаёмяцца з прыгожымі дамамі і наведаюць старажытныя замкі. Яны прапануюць чытачам разгадаць крыжаванку і паслухаць песні. Галоўны рэдактар часопіса, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Дар'я Астрагаловая лічыць, што знаёміцца з выданнем будзе цікава не толькі дзеткам, але і іх бацькам.

Адметна, што ў межах праекта «Музей дзецям з *Velcom*» у Нацыянальным гістарычным музеі адбылося адкрыццё некалькіх аўдыторый, абсталяваных адмыслова для маленькіх наведвальнікаў. Пасля рэканструкцыі зноў адчыніла свае дзверы зала «Жывая археалогія», дзе ўсталяваны раскоп і лабараторыя археолага. Тут дзеці пад кіраўніцтвам музейнага супрацоўніка могуць зрабіць план раскопу, паўдзельнічаць у раскопках і правесці даследаванне знойдзеных прадметаў. А ў межах інтэрактыўнай музейна-пазнавальнай прасторы створаны лекторый для вучняў сярэдняга школьнага ўзросту і пляцоўка для малодшых школьнікаў, тут жа размешчаная і «Батлейка». Супрацоўнікі мяркуюць, што батлеечныя прадстаўленні, якія традыцыйна паказваліся ў Беларусі напярэдадні Каляд, будуць асабліва запатрабаванымі ў час зімовых канікулаў.

— Музей для дзяцей адкрываецца па-новаму, — зазначыў намеснік генеральнага дырэктара кампаніі *Velcom* Роберт Дашан. — Цяпер гэта не проста агляд экспазіцыі і экскурсія са строгімі супрацоўнікамі, а займальныя занняткі ў інтэрактыўнай пазнавальнай прасторы. Вельмі важна, што самыя новыя методыкі і тэхналогіі аб'яднаныя ў нашым праекце з аўтэнтычнымі беларускімі нацыянальнымі элементамі.

Праект «Музей дзецям з *Velcom*» яшчэ працягваецца. Плануецца, што да канца года ў Нацыянальным гістарычным з'явяцца новыя цікавосткі для дзяцей. Пабачыць свет і другі выпуск «Музейных вандровак».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# З любоўю да Ясеніна

Узнёслая, прачулая паэзія Сяргея Ясеніна імпануе многім беларускім чытачам. Ёсць людзі, якія любяць не толькі чытаць вялікага рускага паэта, але і пісаць пра яго. Сярод захопленых ясеніназнаўцаў — журналіст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Пётр Радзечка.

«У юнацтве я меў схільнасць да вершатворчасці — пісаў «пад Пушкіна», «пад Някрасава»... А калі перайшоў у дзявяты клас і набыў кнігу «Руская літаратура», то ўпершыню даведаўся пра С. Ясеніна, — згадвае Пётр Радзечка. — Непрыхільны тэкст, прысвечаны паэту, займаў паўстаронкі — размова ішла пра тое, як Сяргей Аляксандравіч, паводле ягонага ж верша, «сіплай песняй перашкаджаў спаць роднай краіне». Як мог замяніць так моцна адзін паэт? Мяне зацікавіла негатыўнае стаўленне складальнікаў кнігі да Ясеніна, але знайсці больш шырокую інфармацыю пра творцу на той час было немагчыма.

Калі я служыў у арміі ў горадзе Магдэбургу, то адшукаў у казарме на гарышчы стос кніг, спісаных з бібліятэкі. Быў між імі і томік Ясеніна. Вершы ўразілі, але пісаць «пад Ясеніна» ў мяне не атрымалася. Тады я пакінуў свае паэтычныя вопыты, пачаў збіраць літаратуру пра паэта і вывучаць яго творчасць...»



Пётр Радзечка (злева) і кандыдат філалагічных навук Ташкенцкага ўніверсітэта Сяргей Зінін над ракой Акой, непадалёк ад дома Ясеніных. 2011 г.

Вынікам шматгадовай увагі да асобы Ясеніна стала некалькі кніг Пятра Радзечкі. У першую чаргу гэта напісанае ў 2005 годзе даследаванне «Рэабілітаваны Ясенін», дзе апісваюцца складаныя стасункі паэта з Анатолем Марыенгофам. Аўтар пратэстуе супраць намераў асобных ясеніназнаўцаў бачыць постаць А. Марыенгофа ў станоўчым святле — і праз імкненне «абараніць Ясеніна» з'яўляецца палемічны расповед, багаты на біяграфічныя звесткі і цікавыя цытаты. П. Радзечка паўстае выдатным знаўцам біяграфіі паэта — так, ён абгрунтавана сцвярджае, што Ясенін прынамсі аднойчы ў якасці санітара ваеннага цягніка наведваў Беларусь, магчыма, блукаў па вулках Гомеля і Оршы.

У адным з артыкулаў П. Радзечка распавядае пра ўплыў паэзіі Сяргея Ясеніна на творчасць маладых паэтаў 1920-х гг., цытуе малавядомы ліст ад «групы беларускіх пісьменнікаў», дасланы ў 1926 г. у часопіс «Красная новь» як адказ на «брудны опус» Льва Сасноўскага.

Пачынаючы з 1996 года беларускі журналіст рэгулярна ўдзельнічае ў Міжнароднай ясенінскай канферэнцыі. Зборнік эпіграм і пародый «Ясенін — гэта наша ўсё!!!» — выдатная магчымасць пазнаёміцца з асобамі, дзейнасць якіх звязана з творчай спадчынай паэта. Гэта не толькі ясеніназнаўцы, але і стваральнікі музеяў, дызайнеры кніг...

Напярэдадні 120-годдзя з дня нараджэння славутага творцы, якое адзначалася 3 кастрычніка, Пётр Радзечка стаў лаўрэатам міжнароднай літаратурнай прэміі імя Сяргея Ясеніна «О Русь, взмахни крылами…». Даследчык быў таксама ўзнагароджаны нядаўна зацверджаным Ясенінскім медалём. А выдавецтва «Чатыры чвэрці» было ўзнагароджана дыпломам у намінацыі «Выдавецтва, якое прапагандуе творчасць С. Ясеніна».

**Юлія ШПАКОВА**

# «Праз зялёныя вёсны і белыя зімы…»

**Пісаць вершы і апавяданні Уладзімір Паўлаў пачаў ужо ў пятым класе. Будучы старшакласнікам, два гады рэдагаваў школьную насценную газету, у якой побач з творамі іншых вучняў змяшчаў свае вершы і нарысы. У гэты час ён актыўна супрацоўнічаў з любанскай раённай газетай «Кліч Радзімы»: дасылаў вершы, замалёўкі, карэспандэнцыі. «Былі нумары, — прызнаваўся пісьменнік, — дзе змяшчаліся тры-чатыры мае матэрыялы…» Друкавацца ў рэспубліканскай перыёдыцы пачаў з 1954 года, калі газета «Піянер Беларусі» апублікавала яго верш «Слаўнае лета».**



*Уладзімір Паўлаў, 1995 год.*

У 1960 годзе выйшаў першы зборнік вершаў Уладзіміра Паўлава «Узлётная паласа». Ён засведчыў моцны зарад шчырасці і дабрыні, маральнай чысціні лірычнага героя паэта, яго грамадзянскай і патрыятычнай заангажаванасці. Вершы «На павароце», «Бярозкі», «На граніцы», «Пахне зямля маладой збажынкаю…», «Узлётная паласа» і іншыя характарызуюцца свежасцю ўспрымання жыцця, душэўна-чалавечай цеплынёй, гуманістычнай напоўненасцю лірычнага перажывання, улюбёнасцю аўтара ў сваю зямлю. Адлюстраванне знешняга свету падзей і фактаў, заглыбленасць у асабісты жыццёвы досвед, давер да ўнутранага стану арганічна перапляліся з узнёслай рамантызацыяй светаадчування. Вершы маладога паэта звярнулі на сябе ўвагу адмысловым вобразным малюнкам, выяўленчай фактурнасцю, характэрнай пластыкай суб'ектыўнага аналізу, натуральнасцю гучання:

*Баян замоўк на развітальнай ноцы*
*Ускрай сяла, каля чужых варот.*
*І вось ужо ў асенняй пазалоце*
*За гай забег знаёмы паварот.*
(«На павароце»)

Згаданыя паэтычныя асаблівасці знайшлі паглыбленне ў зборніках У. Паўлава «Далягляд» (1964), «Светацені» (1967), «Начная балада» (1971), «Сонца купаецца» (1976), «Сляза на вейцы» (1982) і іншых, якія вызначаюцца абвостранай успрымальнасцю лірычнага героя, актыўным сцвярджэннем грамадзянскіх і гуманістычных прынцыпаў і ідэалаў. Мастацкі стыль паэта характарызуецца спалучэннем лірыка-апавядальнага пачатку і рамантычнага тыпу ідэйна-мастацкага дыскурсу. Многім яго вершам, напрыклад, уласціва значная ступень рэалістычнай канкрэтнасці, прадметнай выразнасці жывапіснага малюнка, непасрэднасці і дакладнасці душэўна-псіхалагічнага перажывання.

Аналізуючы творы паэта са зборніка «Сонца купаецца», Алег Лойка падкрэсліваў: «За ўсімі гэтымі вершамі адчуваецца асоба глыбакадумная, засяроджаная не на дробязях, а на асноўным у лёсе сваіх сучаснікаў, у жыцці чалавечым увогуле, у сваім асабістым жыцці». Сапраўды, паэзія У. Паўлава звяртае на сябе ўвагу багаццем і разнастайнасцю праблемна-тэматычнага зместу, грунтоўнасцю асэнсавання грамадскіх працэсаў, тонкім майстэрствам раскрыцця ўнутранага свету асобы. Творчая думка мастака актывізуецца ўсведамленнем багатага нацыянальна-гістарычнага мінулага беларускага народа, сваёй далучанасці да вялікіх спраў і здабыткаў продкаў, што знайшло выяўленне ў такіх вершах, як «Край мой», «Балада пра жаўранкаў Паўлюка Багрыма», «Што было на Беларусі» і іншых.

Духоўныя арыенціры паэзіі У. Паўлава вывярае на прынцыпах народнай самасвядомасці, на маральных традыцыях і каштоўнасцях роднай зямлі. Лірычны герой У. Паўлава глыбока раскрываецца ў выяўленні народнай памяці вайны, у адлюстраванні балючых праблем і складанасцей пасляваеннага аднаўлення. Паэтызацыя гераізму і мужнасці воінаў у яго суседнічае з праўдзівым паказам людскога гора, скалечаных лёсаў, драм і трагедый, цяжкіх працоўных будняў, сіроцтва, матэрыяльных нястач і інш. Слова паэта крамяное, важкае, насычанае сацыяльнай праўдай, драматычна-трагічным народным досведам:

*Замест жытла — буданы ды зямлянкі,*
*Дзе тыф і сухоты касілі народ.*
*Шукае маленькае грудзі ў мамкі,*
*А мамчыны косы ўжо ўмёрзлі у лёд.*
(«Папалена многа было ў нас фашыстам…»)

*Самая вядомая аповесць У. Паўлава — «Яжэліха». Тут — простая беларуская жанчына, здольная на высакародныя ўчынкі, на подзвіг. Прататып Яжэліхі — маці пісьменніка.*

Лірычны герой У. Паўлава задумваецца над складанымі маральна-этычнымі праблемамі жыцця чалавека. Што ж датычыць душы паэта, дык у ёй вострым болем адгукаюцца праблемы духоўнага жыцця грамадства, факты адступленняў ад спрадвечных маральных законаў продкаў.

Будучы далучаным да ўсіх трывог часу, жывучы насычаным сацыяльна-маральным жыццём, лірычны герой У. Паўлава глыбока ўстрывожаны вострымі гуманістычнымі і грамадзянска-патрыятычнымі праблемамі беларускага грамадства, а таксама тым, што «беларуская мова дайшла да мяжы…».

Не пакідаюць абыякавым пранікнёныя радкі паэта з верша «Народ, пачуй!», напісанага ў 1988 годзе:

*Клёкат горных арлоў, шолах стэпавых траў —*
*У напевах, што селі за братні абрус.*
*Ну, а ты што маўчыш, як вады ў рот набраў,*
*Чаму песні свае не пяеш, беларус?*

Важнае месца ў паэзіі Уладзіміра Паўлава займае вобраз маці. Ён увасабляецца ў творах паэта самымі рознымі гранямі, высвечваецца мноствам фарбаў і адценняў, у багацці душэўна-псіхалагічных перажыванняў лірычнага героя. Вось паэт успамінае маму маладую, калі яна «зару залатую выпускала… з рукі» («Помню маму яшчэ маладую…»), а тут яму ўяўляецца, як «Яблыкі з мокрага саду / Мама ў прыполе нясе» («Дошку ў штакетнік прыладжу…»). Пра маму нагадвае яму літаральна кожная дэталь на бацькоўскай сядзібе: «Тут Богавае «Зла не сатвары» / Я ўпершыню пачуў малым ад мамы» («Адцвіў язмін у маміным двары…»). Адчуваючы сябе без маці прыгнечаным і безабаронным, лірычны герой паэта ў думках вядзе гутаркі з ёю, нібыта з жывою.

Да глыбіні душы кранае верш «Маміна калыханка нада мною». Гэта выдатная мастацкая рэтраспекцыя канкрэтнага факта з жыццёвай біяграфіі паэта. Як вядома, бацька У. Паўлава, Андрэй Максімавіч, перакананы камуніст-ленінец, у 1930-я гады працаваў старшынёй калгаса «Ударнік» у вёсцы Замошша. За неправамоцныя, на думку ўпаўнаважанага, дзеянні па кіраўніцтве гаспадаркай быў асуджаны і два гады знаходзіўся на будаўніцтве Волгаканала ў Рыбінску. Дарэчы, пасля вяртання ў Беларусь працаваў старшынёй Дарасінскага сельскага Савета.

*Слова паэта крамяное, важкае, насычанае сацыяльнай праўдай, драматычна-трагічным народным досведам.*

Мастацка-вобразныя структуры паэта вызначаюцца нечаканасцю супастаўленняў, суаднясеннем розных па характары і маштабе фактаў і працэсаў, кантраснасцю колераў і адценняў, перападам рытміка-інтанацыйнага гучання: «Мы паўзводна выносім з густога сасонніку / Прапацелую стому, / І смагу, / І глей» («Навальнічныя хмары пайшлі за вятрыскамі…»), «Па ўзлессі ад самай вёскі, / Абыходзячы ўсе пасты, / Акружылі наш лагер бярозкі / І схаваліся за кусты» («Бярозкі»), «Доіць восень з набрынялай хмары / Тоненькія нітачкі дажджу», «Тры гады ў грудзях пад гімнасцёркай / Лепшай марай трапятала ты» («Доіць восень з набрынялай хмары…»), «Заняможа на золку, / Суцішыцца лівень, / Перакіне вясёлку / Задумлівы жнівень» («Пераблытаны ўсе…»), «І мы, цішынёю раптоўнай кантужаны, / Выглядваць бацькоў на застрэшкі ўзлазілі» («Было, як і помніцца, неба захмараным…»), «Звісаюць долу з дахаў ледзяшы, / Як грабянцы, вясне расчэсваць косы» («Адзінства»).

Ёсць у У. Паўлава вершы-успаміны, вершы-роздумы, вершы-імпрэсіі, вершы з інтымна-пейзажнымі малюнкамі:

*Пойдзем мы за сяло на ўзгорак,*
*Дзе пад кручамі спіць рака.*
*Для вясельнага там вянка*
*Налаўлю зіхатлівых зорак.*
(«Вее жнівень даспелым жытам…»)

Пяру У. Паўлава належаць таксама паэмы «Вернасць» (1963), «Стук падковы» (1971) ды іншыя.

Напрыканцы 1960-х гадоў Уладзімір Паўлаў раскрыўся нам як празаік. У 1968 годзе выйшла яго аповесць «Пажарніца», станоўча ўспрынятая грамадскасцю і крытыкай, а праз два гады — кніга «Годы нашы — птушкі», якую склалі аповесці «Спелыя травы» і «Яжэліха». Проза паэта? Проза паэта ва ўсёй станоўчасці гэтага вызначэння! Цікавая, арыгінальная, сакавітая, метафарычная.

Гераіня «Спелых траў» Уля перад вайной паспела скончыць дзесяць класаў і збіралася паступаць у інстытут. Але лёс распарадзіўся па-іншаму: давялося стаць у шэрагі змагароў. Аўтар паказвае супрацьлегласць і несумяшчальнасць паняццяў «вайна» і «жыццё», сцвярджае гераічны пачатак у паводзінах чалавека. Самая вядомая аповесць У. Паўлава — «Яжэліха». Тут — простая беларуская жанчына, здольная на высакародныя ўчынкі, на подзвіг. Прататып Яжэліхі — маці пісьменніка.

Цікавасць уяўляюць і аповесці «Нас поле не насеяна» і «Чуж-чужаніца», а таксама апавяданні «Бацечка» і «Сіняе мора». І тут вядучая тэма — таксама вайна. На вайне выразней бачацца каштоўнасці чалавечага жыцця. Лёс роднай зямлі, Бацькаўшчыны, народа, чалавека — сукупнасць гэтых вымярэнняў характарызуе ўсю прозу У. Паўлава. Яго аповесці можна разглядаць як раздзелы аднаго вялікага рамана, аб'яднанага адзінствам канцэпцыі і дзеяння.

Мастацкія вобразы У. Паўлава здзіўляюць пераканальнасцю, ідэйнай і эмацыянальнай ёмістасцю. Возьмем хаця б вобраз, які вынесены ў назву кнігі «Сляза на вейцы». Ён у многім сімвалізуе наш трывожны, суровы час, калі пад пагрозай аказалася само жыццё чалавека. Тут арганічна паядналіся боль і пяшчота, споведзь і пропаведзь, лірыка і публіцыстыка, непрыняцце вайны і шчыры голас у абарону міру. Багацце ўражанняў, драматызм і напружанасць пачуццяў, шчырасць душы, тонкасць і глыбіня перажыванняў робяць творчасць У. Паўлава значнай з'явай у сучаснай беларускай літаратуры.

Уладзімір Паўлаў добра вядомы і як дзіцячы пісьменнік, а таксама перакладчык. Ён выдаў кнігі для дзяцей «Дазор на Сухой Мілі» (1999), «Згадка на дабро» (2004) і інш., кнігі перакладаў «Чужая дачка» (1979), «Момант ісціны» (1984), «Поціск рукі» (1991).

Днямі Уладзіміру Паўлаву спаўняецца 80 гадоў. Віншуем паважанага Уладзіміра Андрэевіча з юбілеем. Моцнага здароўя, смаку да жыцця і новых цікавых кніг.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Мікола МІКУЛІЧ**

### Даведка «ЛіМа»

Уладзімір Паўлаў нарадзіўся 25 кастрычніка 1935 года ў вёсцы Замошша Любанскага раёна ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння ў 1954 годзе Дарасінскай сярэдняй школы працаваў у любанскай раённай газеце «Кліч Радзімы». Служыў у Савецкай Арміі. У 1962 г. закончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў спачатку загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва, затым адказным сакратаром рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», адказным сакратаром кінабюлетэня «На экранах Беларусі», літкансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі, загадваў рэдакцыяй паэзіі, затым збору твораў і выбраных твораў выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 1990 — 1998 гадах У. Паўлаў працаваў намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі.

# Па княскіх пуцявінах

## Гэтыя факты выклікаюць спрэчкі ў многіх гісторыкаў і даследчыкаў

**Альбом-кніга «Святы роўнаапостальны князь Уладзімір» нядаўна пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Аўтары — беларускі гісторык Уладзімір Ліхадзедаў і мецэнат Уладзімір Пефціеў. Яны ўпершыню сабралі пад адной вокладкай велізарную колькасць старадаўніх фатаграфій сабораў, храмаў і цэркваў, вузкіх каменных вулачак рускіх гарадоў пачатку XX стагоддзя, помнікаў і іншых архітэктурных аб'ектаў, звязаных з імем вялікага кіеўскага Хрысціцеля Русі. Менавіта пры князю Уладзіміру, мужным воіне, мудрым кіраўніку, Кіеўская Русь дасягнула небывалага росквіту.**



Выданне духоўна-асветніцкае. У ім можна знайсці шмат інфармацыі, што датычыць лёсу рускага святога, прычым гэта напісана займальна, жыва. Не манатонны кананічны жыццяпіс — публіцыстычны нарыс.

Аўтары лёгка, але ў той жа час удумліва пазначылі ключавыя вехі зямнога шляху князя Уладзіміра. Ён паўстае знаным гістарычным дзеячам, учынкі якога вызначылі развіццё краіны на стагоддзі. Яго подзвіг, Хрышчэнне Русі, прыраўноўваецца да місіі апосталаў.

Між іншым мы бачым у князе таямнічую, супярэчлівую, але надзвычай моцную і мужную асобу. Пра яго шмат сказана ў былінах, летапісах, жыційных апісаннях. Уладзімір Ліхадзедаў і Уладзімір Пефціеў абралі самыя сенсацыйныя звесткі, што выклікаюць спрэчкі не аднаго пакалення гісторыкаў і даследчыкаў, ды смела прапанавалі свой пункт гледжання на падзеі. Сямейнае жыццё, ваенна-палітычная дзейнасць, рэлігійныя пошукі — тры асноўныя тэмы, якія асвятляюцца ў біяграфіі героя.

> *Аўтары лёгка, але ў той жа час удумліва пазначылі ключавыя вехі зямнога шляху князя Уладзіміра. Ён паўстае знаным гістарычным дзеячам, учынкі якога вызначылі развіццё краіны на стагоддзі. Яго подзвіг, Хрышчэнне Русі, прыраўноўваецца да місіі апосталаў.*

Жыццяпіс святога традыцыйна пачынаецца з маленства. Сын кіеўскага князя Святаслава быў народжаны прыкладна ў 960 годзе ад простай ключніцы Малушы, што выклікала надзвычайны гнеў яго бабулі, княгіні Вольгі. З двума братамі, Яраполкам і Алегам, Уладзімір быў у складаных адносінах, якія ў рэшце рэшт скончыліся трагедыяй.

У кнізе мноства гістарычных фактаў: заваяванне Уладзімірам Ноўгарада і Кіева, узяцце Полацка, звязанае са знакамітай легендай пра Рагнеду, сватанне да візантыйскай царэўны, страта зроку і цудоўнае вылячэнне, арганізацыя абароны паўднёвых подступаў да Кіева ад набегаў... Эфект прысутнасці ствараюць каляровыя гравюры.

Як здарылася, што чалавек, які дзесяць гадоў схіляў галаву перад паганствам, забіў свайго брата, меў мноства жонак ды яшчэ і наложніц, першым хрысціць зямлю рускую? Чым былі абумоўлены такія рэзкія змены? Якія прычыны, душэўныя ці знешнепалітычныя, паўплывалі на князя мацней? Як праходзіла так званая працэдура выпрабавання вер, арганізаваная Уладзімірам, якую адны лічаць міфам, а іншыя — праўдай? Пра што абвяшчае Корсунская легенда? Кніга дае адказы на шмат пытанняў. Аўтары аднаўляюць храналогію падзей, звязаных з прыняццем праваслаўнай веры на Русі: ад разбурэння паганскіх свяцілішчаў, сцвярджэння дзесяціны да росквіту драўлянага храмабудаўніцтва і зацвярджэння царкоўнай судовай сістэмы.

У альбоме падаюцца і кароткія звесткі пра знешнюю палітыку князя, якая радыкальна змянілася пасля прыняцця ім хрысціянства: ваяўнічасць з суседзямі саступіла месца дыпламатычнасці.

Святога Уладзіміра апісваюць як чалавека з шырокай рускай натурай — дзякуючы не толькі хрышчэнню ўсёй краіны, але і іншым радыкальным зменам амаль ва ўсіх сферах сацыяльнага жыцця. Ён хацеў, каб усе ахрышчаныя адчувалі сябе адной сям'ёй, паважалі адзін аднаго, жылі ў бяспецы. Легенды пра міласэрнага і мужнага князя дзіўным чынам суседнічаюць у кнізе з чуткамі пра яго бесцырымоннасць і жорсткасць — рысы, што вылучалі ў характары падчас паганства. Але супярэчнасці — аснова цікавага чытання! Здаецца, адна з мэт кнігі — паказаць перавасабленне чалавека з прыняццем новай веры і даказаць, што характар усё ж мяняецца!

Акрамя біяграфіі Уладзіміра аўтары распавядаюць чытачам пра лёс яго мошчаў як святога. Вядома, што князь быў пахаваны ў Дзесяцціннай царкве, якую пабудаваў сам. Аплакваў яго ўвесь народ: баярства — як бацьку, людзі — як заступніка, сіроты — як памочніка, удовы і ўбогія — як карміцеля… Цікавы факт, бо ніхто лепш не кажа пра гаспадара дзяржавы, чым стаўленне народа.

Паводле меркавання аўтараў выдання, асабліва дыскусійнымі застаюцца праблемы станаўлення часу кананізацыі Уладзіміра і яго шанавання як святога. Нібы ў пацвярджэнне гэтых слоў прыводзяцца думкі мітрапаліта Іларыёна, цытаты з «Аповесці мінулых гадоў», Галіцка-Валынскага летапісу і, зразумела, выявы саміх абразоў XIV — XV стагоддзяў з аблічам святога. На фотаздымках можна ўбачыць некалькі цэркваў, дзе захоўваліся рэліквіі, напрыклад, Фёдара Страцілата ў Вялікім Ноўгарадзе.

Аказваецца, храмаў, звязаных з князем, вялікае мноства: у Варшаве, Варонежы і Вятцы, Іркуцку, Кіеве, Кранштаце, Марыенбардзе і Маскве, Разані, Ржэве, Санкт-Пецярбургу… Прычым іх лёсы не менш займальныя, чым чалавечыя, і пра гэта таксама можна даведацца з кнігі!

Так, царква Уладзімірскай іконы Божай Маці ў Быкаве, пабудаваная ў 1789 годзе ў загарадным доме маскоўскага губернатара Міхаіла Ізмайлава, мела вельмі незвычайны на той час выгляд, бо была створана ў гатычным стылі знакамітым архітэктарам Васілём Бажэнавым. Князе-Уладзімірская царква ў Гунгербургу (былы курортны горад на балтыйскім узбярэжжы Эстоніі) урачыста закладалася ў 1890 годзе ў прысутнасці імператара Аляксандра III і імператрыцы Марыі Фёдараўны. Гэты велічны пяцікупальны храм у спрадвечна рускім стылі з каменнай званіцай ўзвышаўся на левым беразе ракі Нарва, дапаўнючы і без таго вельмі маляўнічы краявід. А вось Сабор Уладзімірскай іконы Божай Маці Задонскага манастыра славіўся ўнікальнай святыняй — цудатворнай іконай, прынесенай у горад двума старцамі, заснавальнікамі манастыра. Нялёгка прыйшлося Князе-Уладзімірскаму сабору ў Севастопалі. Работы па будаўніцтве храма былі перапынены баямі Крымскай вайны, а ў яго склепе пахавалі забітых адміралаў Карнілава, Істоміна і Нахімава.

Для паўнаты карціны і разумення значэння імя князя ў гісторыі ў выданні згаданы і ордэн святога Уладзіміра для ваенных і святароў, які займае ганаровае месца ў сістэме вышэйшых узнагарод Расіі і Рускай Праваслаўнай Царквы.

Адзначаючы помнікі на ілюстрацыях, аўтары выносяць на першае месца манумент, усталяваны па загадзе Мікалая I на Уладзімірскай горцы ў Кіеве. Можна ўбачыць, як ён выглядаў у розныя часы са шматлікіх ракурсаў. А відовішча сапраўды ўражвае: на высокім п'едэстале ў накінутай на плечы мантыі — постаць князя, які прытрымлівае правай рукой вялікі крыж, звярнуўшыся да Дняпра, дзе ён хрысціў кіяўлян.

Распавядаецца і пра іншыя помнікі. Вось галоўны манумент Расійскай імперыі, які называюць энцыклапедыяй рускай гісторыі. Цікавасць выклікае кампазіцыя пабудовы: верхняя частка ўяўляе сабой чатырохметровую дзяржаву з крыжам як сімвал царскай улады, яе акаляюць сямнаццаць бронзавых постацей, сабраных у шэсць скульптурных груп, — сімвалаў пераломных эпох у гісторыі Расіі. На фотаздымках можна пабачыць усю гэтую прыгажосць ды яшчэ і даведацца, што дакладна сімвалізавала кожная частка загадкавага манумента.

Наступны раздзел — «У памяці нашчадкаў» — сапраўдная экскурсія па мясцінах, звязаных з князем. Перад чытачом паўстаюць (зноў жа, дзякуючы ўнікальным здымкам) горад Уладзімір, што атрымаў назву ад свайго заснавальніка, Уладзімірская вуліца, якая чамусьці (гэта чытачам патлумачаць) знаходзілася ў Варшаве, Порт Уладзімір, які быў калісьці (не паверыце!) рускім становішчам пад назвай Ерэтыкі на востраве Шалім Мурманскага ўзбярэжжа. Плошчы, праспекты, вуліцы, масты і сады, звязаныя са святым, — на ўнікальных фотаздымках, руплiва сабраных аўтарамі.

> *Храмаў, звязаных з князем, вялікае мноства: у Варшаве, Варонежы і Вятцы, Іркуцку, Кіеве, Кранштаце, Марыенбардзе і Маскве, Разані, Ржэве, Санкт-Пецярбургу… Прычым іх лёсы не менш займальныя, чым чалавечыя, і пра гэта таксама можна даведацца з кнігі!*

Варта згадаць для тых, хто сумняваецца, ці патрэбна адукаванаму чалавеку такая кніга, што ў ліку літаратурных крыніц, якія выкарыстоўвалі аўтары пры падрыхтоўцы выдання, — рарытэтныя асобнікі. У прыватнасці, Уладзімірскі зборнік, напісаны ў памяць 900-годдзя Хрышчэння Русі, Праваслаўная энцыклапедыя, Радзівілаўскі летапіс, Гісторыя рускай царквы ў 12 тамах пад рэдакцыяй Мітрапаліта Маскоўскага Макарыя ды іншыя маштабныя выданні.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Аскетызм + страсць = ?

**Паэт, перакладчык Ігар Кулікоў прадставіў сваю трэцюю кнігу вершаў, якая атрымала назву «Сівер-гара». Падчас прэзентацыі, што прайшла ў адной са сталічных кнігарняў, аўтар распавёў, па якой прычыне выкінуў на сметнік пяць сшыткаў з вершамі, патлумачыў, чаму перапрацоўвае некаторыя старыя тэксты, і прызнаўся, што зайздросціць сваім чытачам.**



Ігар Кулікоў.

## ПАЭТ — ПРА СЯБЕ

— Вершы я пачаў пісаць гадоў у 16, — не таму, што закахаўся, а таму, што проста хацелася пісаць. Але ўсё створанае да дваццацігоддзя — пяць вучнёўскіх сшыткаў — выкінуў у сметніцу. Вельмі добра, што тых вершаў ужо не вернеш. Адзін з аўтараў старажытнаіндыйскай Рыгведы неяк параўнаў паэзію з возерам. У творчасць адных паэтаў можна ўвайсці па шыю, у вершы другіх — па плечы, а ў паэтычнай мове трэціх можна толькі абмыцца. У першай сваёй кнізе я толькі здзейсніў «Паварот на мора», у другой — «Свамове» — чытач ужо можа трохі паплёскацца, а ў трэцяй — нават і абмыцца. Спадзяюся, што ў наступных кнігах у мяне паэзію можна будзе зайсці да плячэй, да шыі і нават з галавой схавацца.





Не вельмі люблю казаць пра ўплывы — магу толькі назваць аўтараў, якіх хочацца перачытваць. Гэта Ігар Бабкоў, Міхаіл Баярын, Алесь Разанаў, ранні Янка Купала, Іосіф Бродскі, Уільям Батлер Ейтс, індыйская паэзія і эпас.

*Часам можна пачуць меркаванне, што Ігар не любіць сваіх чытачоў: у яго паэзіі надта ж складаная сістэма вобразаў, дзіўныя формы слоў, якія ён часта прыдумвае сам. Падчас чытання трэба не проста «прадзірацца» праз сэнсы і недвыказаныя думкі, але і здагадвацца, дадумваць значэнне некаторых слоў. Сам Ігар з такой думкай не згодны:*

— Я чытачоў сваіх вельмі люблю, сачу, хто чытае мае кнігі. Сёння прыблізна ўяўляю сваю аўдыторыю, усім вельмі ўдзячны і нават зайздрошчу. Мне самому вельмі хацелася б быць чытачом сваіх кніг. Але, на жаль, не атрымаецца. Я ведаю, як усё пісалася, колькі варыянтаў закрэслена, дзе і ў якіх умовах стваралася. Часам, калі чытаю вершы іншых паэтаў, якія чымсьці нагадваюць мае, з прыемнасцю зазначаю для сябе: мабыць, і мае чытачы адчуваюць падобнае. Пісаць вершы — не прыемна і не карысна. Гэта тое ж, што і дыхаць. Справа не ў грошах, не ў чытачах і нават не ў асалодзе ад працэсу. Часам можна пісаць нават сабе ў шкоду: заўтра рана ўставаць на працу, а ты ўсю ноч пішаш. Ці працуеш да болю ў вачах, але не можаш пакінуць, не дарабіўшы. У працэсе напісання вершаў не думаеш ні пра чытачоў, ні пра рэакцыю на твор. Застаецца толькі сама праца.

*Ігар распавёў, што ў новую кнігу, якая атрымала назву «Сівер-гара», паводле аднайменнага верша, напісанага амаль год таму, увайшло чатыры вершы з папярэдняй кнігі:*

— Ужо амаль традыцыйна, што некаторыя творы «качуюць» з адной кнігі ў наступную. Гэта не дапрацоўка старых тэкстаў, для мяне кожны верш — завершаны, але той ты, які яго пісаў, памірае, калі твор скончаны. Потым з'яўляецца новы «я», з іншымі стандартамі, падыходамі. І вось гэты новы «я» глядзіць на старыя творы і думае, што раней зрабіў іх няправільна. Большасць вершаў перарабляць не атрымліваецца: яны ўжо закрытыя, дарогі назад не застаецца. І калі я кажу, што творы «перакачавалі» ў новую кнігу, то не трэба думаць, што гэта адзін і той жа тэкст. Гаворка ідзе пра розныя вершы, створаныя двума версіямі мяне. Калі іх параўноўваць, можна нават напісаць дысертацыю.

*Адметна, што, паводле задумкі аўтара, на першай старонцы кнігі «Сівер-гара» павінна было стаяць слова «Паэма» — для больш канцэптуальнага прадстаўлення тэкстаў і ўспрымання вершаў не паасобку, а ў сукупнасці. Ігар тлумачыць:*

— Кожны верш гэтай кнігі можа быць названы «Сівер-гара», і адпачатку задумвалася, што пазначэнне «Паэма» стане зачэпкай, падказкай для чытача. На жаль, супрацоўнікі друкарні замянілі надпіс на «Вершы», выходзячы з фармальных патрабаванняў выходных дадзеных кнігі. Але «Сівер-гара» — гэта паэма. Не ў тым сэнсе, што кніга аб'яднаная адным сюжэтам. Для мяне зборнік паэзіі — сапраўды асобна ўзятая, самадастатковая структура. Я радыкальна адрозніваю анталогію, зборнік выбранага, зборнік вершаў розных гадоў ад кнігі. Кніга вершаў — твор, менавіта па гэтай прычыне яна такая невялікая па аб'ёме — каб можна было прачытаць на адным дыханні, каб кожны наступны верш «чапляўся» за папярэдні.

Адна з асноўных тэм паэзіі Ігара Кулікова — тэма мовы. У кнізе «Свамова» быў запачаткаваны праект ідэальнай, чыстай беларускай мовы, пазбаўленай запазычанняў. Свамова абапіраецца толькі на ўласныя рэсурсы, яе словы здольныя выказаць любы сэнс.

> *Адзін з аўтараў старажытнаіндыйскай Рыгведы неяк параўнаў паэзію з возерам. У творчасць адных паэтаў можна ўвайсці па шыю, у вершы другіх — па плечы, а ў паэтычнай мове трэціх можна толькі абмыцца.*

— Мова — адна з ключавых тэм маёй паэзіі, — распавядае Ігар, — але ў новай кнізе пераважае іншая тэма — дарога. Маецца на ўвазе не толькі ўзыход на Сівер-гару, але і дарога ў шырокім сэнсе. Гэтая кніга пачалася акурат з верша «Дарога мовы», гэта першы твор, які я напісаў пасля другой кнігі, неўзабаве пасля прыезду з Індыі. Менавіта тады зразумеў, куды павінен рухацца, куды бяжыць мая дарога. Аскетызм, страсць, мова — вось складнікі новай кнігі. Падчас працы над вершамі, што склалі «Сівер-гару», я многа натхняўся індыйскай Рыгведай, зборнікам гімнаў багам. Гэты тэкст — бадай, самы старажытны зборнік паэзіі ў свеце. Рыгведу я яшчэ і перакладаю на беларускую мову, таму старажытная паэзія, якой ужо больш як тры з палову тысячагоддзі, непрыкметна ўкаранілася ў маёй свядомасці і стала вылівацца ў гукавой абалонцы беларускай мовы.

Увайшоў у кнігу і пераклад кавалка з Магабхараты — самага вялікага па аб'ёме эпічнага твора чалавецтва, напісанага на санскрыце. У гэтым вялізным эпасе, аб'ёмам 200 тысяч радкоў (што ў дзесяць разоў больш, чым «Адысея» Гамера), многа кароткіх гісторый. Я выбраў адну, што падыходзіла мне па настроі і змесце. Гэты ўрывак прынята называць «Горац». Тут апісваецца гісторыя пра тое, як Арджуна, адзін з герояў Магабхараты, сам таго не ведаючы, змагаўся з богам Шывам, што з'явіўся ў выглядзе горца. Арджуна, які жыў на гары і тварыў там аскезу, аднойчы пабачыў вялізнага дзіка і вырашыў яго забіць. Гэтага ж дзіка заўважыў бог Шыва і таксама захацеў яго ўпаляваць. Калі абодва героі выпусцілі стрэлы, то пачалася спрэчка, чыя гэта здабыча: стрэлы працялі дзіка адначасова. Арджуна, не ведаючы, што перад ім бог, пачаў з ім змагацца. Хто пераможа: Арджуна ці Шыва? Чытайце кнігу — даведаецеся!

## ФІЛОСАФЫ — ПРА ПАЭТА

На прэзентацыю «Сівер-гары» Ігара Кулікова завіталі яго калегі і паплечнікі: філосаф, паэт Ігар Бабкоў і паэт, філосаф, санскрытолаг Міхась Баярын. Яны падзяліліся ўражаннямі ад знаёмства з новай кнігай Ігара.

**Ігар Бабкоў:** «Калі ўявіць цела беларускай мовы ў выглядзе кавалка сыру, то паэзія Ігара — лабірынты, тунэлі, што прагрызае ў ім мыш. У паэзіі Ігара ўсё вельмі складана. Калі ў першай кнізе прысутнічала нейкая весялосць, то з цягам часу ў яго вершах застаецца ўсё менш асобы паэта. Але пры гэтым выбудоўваюцца ўсё больш грандыёзныя, сур'ёзныя лабірынты. Мы застаёмся сам-насам з іх прыдуманымі самім Ігарам. Гэта фантастычна вылучае яго з усяго «ландшафту» сучаснікаў. У нашым уяўленні паэт — мілая нарцысічная істота, якая б'е сябе ў грудзі і крычыць: «Гэта я! Не блытайце мяне з іншымі!». Калі разгледзець пакаленне паэтаў-аднаначаснікаў Ігара, то мы пабачым чатырохкутнік. Насупраць яго з падобным герметызмам і імкненнем «прагрызці» свае лабірынты — Антон Францішак Брыль. Яго паэзія стаіць на самоце. З іншага боку — класічныя нарцысы Андрэй Адамовіч і Віталь Рыжкоў. Вельмі добра, што Ігар Кулікоў мае выдатны кантэкст, тых паэтаў, з якімі ён жыве ў адным часе і можа рэагаваць на выклікі творцаў свайго пакалення».

**Міхаіл Баярын:** «Творцаў, якія працуюць з мовай, у беларускай паэзіі многа. Паэты любяць прыдумваць словы, развіваць мову. Мы можам параўнаць паэзію Янкі Юхнаўца і Ігара Кулікова. У абодвух вельмі многа створаных слоў, але паэзія Ігара вылучаецца тым, што ён у гэтым працэсе сістэмны. Па сутнасці, ім створаны беларускі санскрыт. Калі мы чытаем вершы Ігара, то бачым, што яны напісаныя па-беларуску, але насамрэч гэта зусім іншая беларуская мова. Гэтая новая беларуская мова, Свамова, канструктыўна складзеная з іншай пазіцыі. Ігар сваім словам пракладае дарогу ў няісныя сусветы і дае нам магчымасць прайсці гэтымі шляхамі. Першая яго кніга, «Паварот на мора», — паэзія страсці, кахання. Ужо тады праца з мовай была заўважная, але на фоне лірыкі яна была другаснай. У «Свамове», наадварот, праца з мовай выйшла на першы план, а ў трэцяй страсная лірыка дэбютнай кнігі спалучылася з аскетызмам і граматызмам другой. «Сівер-гара» — кніга вельмі страсная, яна прасякнутая страсцю кахання, аскезы і адначасова вельмі граматычна дасканалая. У яе мове няма нічога лішняга, кожны верш абсалютна дасканалы».

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара.**

## Дайджэст

• Кароль жахаў Стывен Кінг абвясціў, што прыгоды адстаўнога дэтэктыва Біла Ходжэса не заканчваюцца. Пісьменнік афіцыйна пацвердзіў: наступным летам у продажы з'явіцца трэці — заключны — раман пад назвай «Канец вахты». Па словах рэдактара брытанскага выдавецтва «Ходэр і Стоўтан» Піліпа Прайд, «Канец вахты» мусіць прывесці чытача да «страшных і пакутлівых высноў». Як паведамляе *The Guardian*, у ЗША і Брытаніі выхад кнігі плануецца 7 чэрвеня 2016 года.

• Галівудскі рэжысёр Браян Сінгер плануе зрабіць фільм паводле «Дваццаці тысяч льё пад вадой» Жуля Верна. Пра гэта рэжысёр паведаміў у *Instagram*: «У мой 50-ы дзень нараджэння я скончыў працу над сцэнарыем наступнага фільма. Гэта гісторыя, якую я хацеў пераказаць з самага дзяцінства. Я абяцаю, што гэта будзе эпічная і эмацыянальная прыгода для гледачоў усіх узростаў. Падарожжа, якое мне вельмі падабаецца…». У верасні Браян Сінгер скончыў працу над здымкамі фільма «Людзі Ікс: Апакаліпсіс», які цяпер манціруецца. Пасля прэм'еры стужкі ў маі 2016 года рэжысёр возьмецца за доўгачаканую працу.

• Літаратурны свет чакае захапляльны марафон: з 8 па 11 снежня расіяне будуць чытаць «Вайну і мір» Льва Талстога. Праект гэты атрымаў назву «Чытаем разам» і створаны ў гонар Года літаратуры ў Расіі. Чытанне рамана будзе трансліравацца па тэлебачанні і радыё. У праекце задзейнічана 1300 чалавек, што жывуць у розных гарадах краіны. У чытанні возьмуць удзел прафесійныя артысты, спартсмены і іншыя вядомыя асобы. Пройдуць чытанні ў адмыслова абсталяваных месцах, так ці інакш звязаных з творчасцю Льва Талстога. Стартуе марафон а 10-й раніцы па маскоўскім часе.

• Супрацоўніца Лонданскай бібліятэкі Клаўдыя Рычы знайшла невядомы рукапіс Сяргея Ясеніна — вельмі каштоўны экзэмпляр паэмы «Пугачоў». Спадарыня Клаўдыя даследавала матэрыялы фонду Рускай літаратурнай калекцыі, калі выпадкова звярнула ўвагу на рукапісны тэкст. Пазней расійскія вучоныя пацвердзілі, што гэта менавіта той рукапіс, што быў прывезены ў Аб'яднанае Каралеўства дзякуючы Карлу Бехгоферу, журналісту, асабіста знаёмаму з Ясеніным. Калі Карл наведваў Маскву ў 1921 годзе, паэт падараваў яму на памяць скончаную версію «Пугачова». Верагоднасць, што рукапіс вернецца ў Расію, мізэрная, аднак хутка ў гэтай краіне з'явіцца яго копія. І, несумненна, расійскім даследчыкам дазволяць разгледзець і вывучыць значную знаходку.

• Аўтарытэтнае кітайскае выданне *China Daily* апублікавала вынікі даследавання датчына літаратуры, праведзенага ў 2014 годзе. Высветлілася, што сярэднестатыстычны жыхар Кітая чытае 4,5 кнігі на год. Для параўнання: француз чытае 12 кніг на год, амерыканец — 7 кніг, жыхар Паўднёвай Карэі — 11 кніг. Па падліках даследчыкаў, 40% насельніцтва Кітая не прачытала ніводнай кнігі за 2014 год. Між тым 40% рэспандэнтаў хацелі б больш часу аддаваць на прачытанне кніжных навінак. 78,6% жыхароў Паднябеснай любяць мастацкую літаратуру. Па выніках даследавання ўлады Кітая ўжо распачалі падрыхтоўку праграмы па глабальнай папулярызацыі чытання.

# Душа не адлятае ў вырай...

**27 кастрычніка ў галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрыецца мемарыяльная выстаўка мастака Фёдара Ястраба. Пачатак імпрэзы — а 17-й гадзіне. На вернісажы адбудзецца прэзентацыя яго паэтычных кніг «Абяцанне сноў» і «Вясёлкавы след».**



*Фёдар Ястраб на адкрыцці выстаўкі ў НББ.*

Угодкі Фёдара Ястраба... Журботны ўспамін. Уже не верылася ў цуд, але не хацелася верыць і ў тое, што маляўнічыя дні леташняй залатой восені стануць для яго апошнімі. Што ўсе невыносныя пакуты амаль двухгадовага развітання з жыццём гэтак імклівa і раптоўна ўвальюцца ў адно выбуховае імгненне і ў біяграфіі чалавека, які за свае «60 плюс» паспеў многае — не паспеў толькі пастарэць, — з'явіцца заключная кропка... 19 кастрычніка 2014 года ён сышоў у іншасвет.

Зямны чалавек з гучным і крылатым радзінным прозвішчам выправіўся ў вырай, з якога не вяртаюцца... А яго душа? Незямная крылатая загадка, душа мастака не спыняе свой самотны містычны палёт!

Зноў прыгадваю тую нашу даўнюю гутарку, калі Фёдар Адамавіч, нібы між іншым, працытаваў вядомы Багдановічаў радок: «Мая душа, як ястраб дзікі, што рвецца ў неба на прастор...». І дадаў: «Гэта пра мяне, праўда. Гэта, можна сказаць, эпіграф майго жыцця».



*«Залатая чаша».*

Што ж, эпіграф, а цяпер і эпілог, гучыць нібы напамін пра няўтомныя крылы таленту Фёдара Ястраба, якія заўжды шукалі прасторы! Гэтыя крылы ўзносілі яго вольную, як неприручаны птах, душу над мітрэнгамі грэшных будняў, над мітуснёй і спакусамі, над часовымі няўдачамі, расчараваннямі, жыццёвымі нягодамі, драмамі ды безвыходнай нямогласцю.

Ці варта казаць, што ў апошнія гады ён жыў нібы са звязанымі крыламі? Рэдкая хвароба, невытлумачальная для абывацеля і загадкавая для неўролагаў, дзень пры дні паглынала яго жыццёвыя сілы, цягнула ў нерухомасць, адымала дыханне. Але выпростава няўгледныя крылы яго не спавітая немаччу душа! Дактары агучылі жорсткі дыягназ, адразу зрабілі прысуд, не пакінуўшы надзей нават на часовую палёгку. Фёдар Адамавіч ведаў, што з ім адбываецца, і мусіў прайсці выпрабаванне на трывушчасць духу — без ілюзій. У чаканні свайго апошняга выраю гэты магутны, прыгожы, шчодра надзелены рознабаковым талентам і творчай энергіяй чалавек працаваў. Пакуль рука трымала пэндзаль, займаўся жывапісам. Думаў пра першую пасмяротную выстаўку і выказваў арганізацыйныя пажаданні. Прыслухоўваўся да натхнёнага беларускага слова сваёй душы — складаў санеты, і падборкі гэтых дзівосных твораў пачалі з'яўляцца на старонках перыёдыкі.

Самы для яго блізкі, адданы чалавек, спадарожніца самых трагічных апошніх зямных дзён Арына Ястраб паведаміла мне, што на працягу 2012 — 2013 гадоў Фёдар напісаў амаль 1000 санетаў! З іх складзена шэсць кніг, прытым пяць («Абяцанне сноў», «Вясёлкавы след», «Жыццё, як час сарванай ружы», «Маленне агню і ветру», «Таўро») аб'яднаныя ў «Скарбонку санетаў». Два першыя тамы гэтага пяцікніжжа ўжо выйшлі ў выдавецтве «Галіяфы» дзякуючы дапамозе Беларускага народнага банка ды Белсвісбанка. Шостая кніга Фёдара Ястраба, якая названа «Песні Ліцвіна» і змяшчае паэзію гісторыка-патрыятычнага кірунку, будзе выдавацца асобна. Плануецца таксама выдаць усе прыгаданыя кнігі санетаў пад агульнай вокладкай, аб'яднаўшы іх у вялікі аднатомнік «Знакі Хронаса».

Самыя лірычныя, напоўненыя музыкай радкі Фёдара Ястраба ўжо ўвасобіліся ў напеўныя мелодыі рамансаў. «Мінулі вёрсты ў ланцугах пакут...» Аліны Безенсон, «Адну ў гады цябе абрала неба...» Ганны Казловай, «Абновіцца душа і прарасце лісцём...» Эміля Наско — прэм'ера гэтых першых вакальных твораў, напісаных нашымі вядомымі кампазітарамі на санеты з кніг «Абяцанне сноў» і «Вясёлкавы след», будзе адным з адкрыццяў для гасцей вернісажа.

*Работы Фёдара Ястраба захоўваюцца ў фондах некалькіх мінскіх музеяў, а таксама ў зборах Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, Светлагорскай карціннай галерэі. Ёсць яны і ў Расіі (зборы Дзяржаўнага мастацкага музея г.Сочы, Мастацкага музея г.Бранска, Мастацкай галерэі г.Унеча), і ў Бельгіі (галерэя «Кляй-Груве» ды Рускі культурны цэнтр), і ў прыватных калекцыях Беларусі, Галандыі, Германіі, Італіі, Францыі ды іншых краін.*

Сам Фёдар Ястраб з маленства любіў рабіць адкрыцці. У прыродзе, у свеце кніг. У няпісаных законах развіцця грамадства і на бязмежных абсягах творчасці. Нездарма ж аднойчы прызнаўся: «Я пішу карціны, але і люблю ладзіць выстаўкі. Гэта таксама — маё. Спраўдзіць арыгінальны праект, зрабіць тое, што да цябе не рабілі, — не меншая творчасць, чым праца ў майстэрні». Выставачная прастора, якою ён апекаваўся, была фактычна прасторай для новых адкрыццяў. Ва ўрачыста-сакральны час адкрыццяў ператвараўся кожны вернісаж, які ён курыраваў. Падзяліць радасць адкрыцця з гледачамі — гэта было вельмі важна для Фёдара Адамавіча, які любіў ствараць мастацкую падзею і пазначаў свае крэатыўныя праекты выразнымі канцэптуальнымі назвамі.

Міжнародны фестываль лічбавага мастацтва «Terra Nova», міжнародная біенале сучаснага жывапісу «Colorfest», міжнародная выстаўка графікі «Арт-лінія», міжнародны фэст «Універсум», штогадовыя выстаўкі «Арт-крок», «Кветкавы рай», «Фестываль пейзажа», а яшчэ — «Усе стыхіі», «Слова і вобраз». Іх было больш як 80. А магло не быць зусім. У новай Нацыянальнай бібліятэцы паводле плана была прадугледжана толькі адна галерэя «Атрыум». Ды празорлівы творца і па-гаспадарску адказны арганізатар (Фёдару Адамавічу прапанавалі ўзначаліць галерэйна-выставачны аддзел нашай галоўнай кніжнай скарбніцы) бачыў перспектыву, меў круты характар і, як сам казаў, «прабойную сілу». Таму ўрэшце і склаўся вядомы сёння ўнікальны галерэйна-выставачны комплекс: «Атрыум», «Ракурс», «Лабірынт» і «Панарама». Усяго каля трох тысяч квадратных метраў, прыдатных для ажыццяўлення сапраўды маштабных арт-праектаў! Пад крылом Фёдара Ястраба гэтая прастора напоўнілася творчым жыццём, якое заўважна ўзбагаціла айчыннае мастацтва і паспрыяла папулярызацыі культурнага іміджу нашай краіны ў свеце.



*«Рамантычная вандроўка».*

Праз некалькі дзён тут разгорнецца яго выстаўка. Укладальнік экспазіцыі, загадчык галерэйна-выставачнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Аляксандр Зіменка, ствараючы выразную рэтраспектыву творчасці свайго незабыўнага старэйшага калегі, меў магчымасць уключыць у яе і тыя работы, якія яшчэ не выстаўляліся. Зрэшты, нават у знаёмых палотнах Фёдара Ястраба (многія ўвайшлі ў вялікі цыкл «Формула міфа», які майстар ствараў на працягу многіх гадоў) знаўцы і чулыя прыхільнікі мастацтва заўсёды ўбачаць нешта, не заўважанае раней. «Захавальнік сонца», «Замова», «Сезон ягад», «Рамантычная вандроўка», «Дом для папугаяў», «Чырвоны сон», «Партрэт з мінулага», «Старая мелодыя», «Вершнікі», «Танец вечара», «Вісячы сад», «Феі восені», «Час матылькоў», «Месяцавы краявід»... Свет яго карцін не адразу раскрывае староннямy позірку метафарычныя метамарфозы ліній, абрысаў, колеравых акцэнтаў, багацце дэталяў, красамоўства нюансаў, схаваных за манументальнай кідкасцю або яркай, прыцягальнай дэкаратыўнасцю кампазіцый. Настроіўшыся на іх вобразны лад, спакваля ўваходзіш у глыбіню гэтых размаітых маляўнічых прыпавесцей.



*«Крыніца».*

Тут мудрагеліста перапляліся тэкст і падтэкст, сустрэліся гісторыя і міф, рамантычная легенда і рэальнасць прадметнага свету, канкрэтыка прагматычнага часу і алегорыя Вечнасці...

Жывапісец і галерыст, мастацтвазнаўца, публіцыст і паэт, выкладчык і аўтар унікальнага навукова-практычнага курса «Прадзюсарства ў сферы выяўленчага мастацтва». Чалавек-з'ява... Ён быў здатны лунаць у прасторы адвечнай гармоніі, душою ўзнімацца да бязмежжа высокіх ідэй і ўяўленняў. Ён лепш за многіх разумеў, што «толькі дух заменіць жарсцяў залатую клетку». Адчуваў, як «наразаюць колы часу каляіны». Ведаў, што для кожнага з нас «тчэцца сувязей няведамых радно», якія вызначаюць лёс і аднойчы надыдзе хвіліна, калі «адчуеш спінай Вечнасці намеры». Зазірнуўшы Вечнасці ў вочы, мастак разважаў пра тое, «што скажа ў іншасвеце херувім, калі туды дагрукаецца сэрца». І думаў, ці не змарнее ў самоце «маіх шчадрот разгорнуты кілім»...

Зусім ужо хутка кілім яго творчых шчадрот разгорнецца перад намі. Патрапіўшы ў жывапісна-паэтычны дзівасвет вернісажа Фёдара Ястраба, гледачы і чытачы, ахінутыя таемнай энергіяй жывапісу, услухоўваючыся ў пульс афарыстычных радкоў, у музыку яго санетаў, напэўна ж, адчуюць містычны дотык няўгледных крылаў яго душы...

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

# Усё толькі пачынаецца…

**У межах святкавання Міжнароднага дня пажылых людзей у Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь прайшла творчая сустрэча з удзельнікамі клуба «Прырода і фантазія» і адкрылася выстаўка пейзажнага жывапісу «Сэрцу родныя матывы».**

Аўтарамі прадстаўленых у экспазіцыі работ з'яўляюцца людзі самых розных прафесій, многія з якіх вынайшлі ў сабе новыя таленты ўжо на заслужаным адпачынку. Малюнкі, вышыўка, прыродная скульптура, вязанне… Творчае аб'яднанне, на жаль, не мае пастаяннага памяшкання, але яго ўдзельнікі не апускаюць рукі і не губляюць аптымізму — арганізоўваюць выстаўкі не толькі ў Мінску, па Беларусі, але і за мяжой. «Прырода і фантазія» — аб'яднанне нефармальнае: не трэба заявы і членскіх узносаў, прыходзь, ствара́й, тут заўсёды рады новым удзельнікам.

Дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі Сяргей Квачан у прывітальным слове адзначыў, што ў жыцці важна не толькі знайсці сваю любімую справу, прафесію, але і не згубіць аптымізму, энергіі і жыццялюбства, калі прыходзіць час завяршаць працоўную дзейнасць. Сяргей Іванавіч прызнаўся: шчыра захапляецца тым, што робяць удзельнікі «Прыроды і фантазіі». А яшчэ запэўніў, што для выставак і іншых мерапрыемстваў клуба ў Прэзідэнцкай бібліятэцы заўсёды знойдзецца месца.

Кіраўнік творчага аб'яднання «Прырода і фантазія» Аляксандр Лейка распавёў пра гісторыю ўзнікнення клуба. Афіцыйна годам стварэння арганізацыі (тады гэта была секцыя пры Доме прыроды ў Траецкім прадмесці) лічыцца 1971-ы. Але ветэраны творчага калектыву вядуць «летапіс» з 1968 года, калі ў Палацы культуры прафсаюзаў прайшла першая выстаўка энтузіястаў — палкоўніка ў адстаўцы Мікалая Буланава, інжынера-электрыка Фелікса Алеева,




Аляксандр Лейка ўручае карціну дырэктару Прэзідэнцкай бібліятэкі Сяргею Квачану.

артыста Сяргея Дубравіна і мастака Леаніда Чарняўскага, які не толькі стаў першым кіраўніком клуба, але і стварыў яго эмблему. Работы майстроў сталі даволі папулярнымі. Адны з першых выставак прайшлі на ВДНГ у Маскве, у Патсдаме (Германія). Сярод актыўных членаў клуба была і народная артыстка СССР і БССР Стэфанія Станюта, якая майстравала з прыродных матэрыялаў біжутэрыю і сувеніры. Дагэтуль частка вырабаў знакамітай актрысы вандруе па выстаўках разам з іншымі творамі майстроў аб'яднання. Пасля смерці ў 2000-м годзе Стэфанія Міхайлаўна назаўжды засталася ганаровым членам клуба.

Аляксандр Лейка ўзначальвае клуб «Прырода і фантазія» з 1992 года. Яго вырабы з розных парод дрэў, каранёў не адно стагоддзе праляжалі ў тарфяніках, — шэдэўры натуральнага паходжання. Ад работ Аляксандра Лейкі павявае чымсьці першабытным, спрадвечным. Аляксандр Аляксандравіч прадэманстраваў гасцям сапраўдныя «дзівосы прыроды».

Эканаміст на пенсіі Людміла Хаменка вырабляе карціны з лішайніку, моху, бяросты і асінавай кары. Засвоіла таксама біссерапляценне, вышыўку гладдзю і крыжыкам, вязанне і стужачны дызайн, наведвае гурток, дзе вучыцца пісаць акварэллю.

Яўгенія Ракашэвіч па прафесіі хімік. Калі выйшла на пенсію, захапілася стварэннем карцін з лямцу па тканіне. Валянціна Някрасава ж атрымала прафесію мастака-мадэльера, але ніколі не працавала па спецыяльнасці. Затое на заслужаным адпачынку любоў да тканіны «прачнулася»: стварае ў тэхніцы піраграфікі — гэта аплікацыі з мастацкім выпальваннем па тканіне.



Эдуард Самойлаў дэкламуе свае вершы.

З арыгінальным мастацтвам вышыўкі стужкамі пазнаёміла гасцей Раіса Жыгалка. Валянціна Някрасава падарыла Музею гісторыі Прэзідэнцкай бібліятэкі карціны з бяросты. Ганаровае месца ў калекцыі «Дары Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь» зоймуць перададзеныя Эдуардам Самойлавым кнігі паэзіі «Выбраныя вершы і малюнкі», «Хадзем са мною», «Бясконцыя радкі» ды інш. Неверагоднай прыгажосці жывапіс падарыла Прэзідэнцкай бібліятэцы мастак-аматар Ганна Гадзірава, якая скончыла мастацкае вучылішча імя Глебава і мастацка-графічны факультэт Віцебскага ўніверсітэта, а пасля 17 гадоў выкладала ў школе, таму на жывапіс асабліва не хапала часу. А нядаўна Ганна Гадзірава нанова адкрыла свой талент: яе работы выстаўляюцца, і ёсць жадаючыя набыць.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Як помнік вызваліцелям

**Каштоўным выданнем папоўніўся краязнаўчы фонд Горацкай раённай бібліятэкі імя Максіма Гарэцкага. Установа атрымала ў дар ад рэдакцыі газеты «Горацкі веснік» два першыя тамы чатырохтомнага выдання «Гераічная гісторыя 70-й стралковай Верхнедняпроўскай ордэна Суворава II ступені дывізіі».**

Кнігі прысвечаныя гераічнаму шляху стралковай дывізіі ў складзе 33-й арміі, перадавы атрад якой пад камандаваннем Валянціна Піліпаса 26 чэрвеня 1944 года першым уварваўся ў Горкі. Першы том «Гераічнай гісторыі…» выйшаў у маскоўскім выдавецтве «Навука» ў 2011 годзе і змяшчае ўспаміны ветэранаў — ад радавых салдат да палкоўнікаў і генералаў. У 2012-м пабачыў свет другі том, значная частка якога прысвечана абароне пад горадам Горкі з 3 кастрычніка па 31 снежня 1943 г. Тут прасочваюцца баявыя дзеянні дывізіі на тэрыторыі сённяшняга Дрыбінскага раёна. З данясення камандавання даведваемся пра подзвіг кулямётчыка Фёдара Несцерава, «які адным з першых 30 верасня 1943 года фарсіраваў раку Проня і падняў байцоў у атаку на вёску Кледнявічы. А падчас разведкі боем пад вёскай Блажкі 13 — 14 кастрычніка, прасунуўшыся з кулямётам наперад, падвяргаючыся абстрэлу, смела прыкрываў сваім агнём працу санітараў па вынасу параненых». Салдат быў узнагароджаны медалём «За адвагу».

Два гады таму выйшлі трэці і чацвёрты тамы. Трэці том адкрываецца раздзелам «Абарона пад горадам Горкі (нямецкі абарончы рубеж «Пантэра») 3 кастрычніка 1943 года — 22 чэрвеня 1944 года». У храналагічным парадку дзень за днём апісваюцца баявыя дзеянні дывізіі, прыводзіцца пералік вызваленых населеных пунктаў.




Першы том выдання «Гераічнай гісторыі».

Чацвёрты том прысвечаны баявому шляху дывізіі ў 1945 годзе. Тут распавядаецца пра ўдзел у акружэнні нямецкага горада Мемель (цяпер горад Клайпеда), Кёнігсбергскай аперацыі, Земландскай наступальнай аперацыі, вызваленні Польшчы. Таксама ў чацвёрты том уключаны спісы вызваленых і пройдзеных маршам населеных пунктаў, камандніга складу 70-й стралковай дывізіі, баявых страт.

Гэтае ўнікальнае выданне — своеасаблівы помнік героям-вызваліцелям. Сабраныя матэрыялы ўяўляюць вялікую каштоўнасць для ўдакладнення і больш дэталёвага вывучэння гісторыі роднага краю, дазваляюць узнаць раней невядомыя факты. З першымі двума тамамі можна пазнаёміцца ў чытальнай зале Горацкай раённай бібліятэкі.

**Ніна ДЫЛЬКОВА,**
**бібліёграф**
**Горацкай раённай бібліятэкі імя Максіма Гарэцкага,**
**фота аўтара**

## Фоташтрых

## «Дажынкі»: крэатыўны фармат




Бібліятэчны падворак на свяце ўраджаю.

Бярэзінскія бібліятэкары актыўна працуюць у зонах масавага адпачынку сваіх патэнцыяльных чытачоў. З мая і да канца лета ў горадзе прайшлі вулічныя акцыі «Кніжная вясна», «Літаратурны парад Перамогі», «Часопісны скверык», «Бібліятэчны праменад», «Чытайдворык на вуліцы Камсамольскай», «Лета пад кніжным парасонам», «Аўтавакзал, які чытае», прымеркаваныя да гарадскіх і агульнараённых свят.

Раённае свята «Дажынкі-2015» таксама стала аб'ектам асаблівага клопату нашых супрацоўнікаў. На стадыёне аграгарадка Косаўка, дзе разгарнулася ўрачыстая дзея, быў прадстаўлены адметны «Бібліятэчны падворак». Вабіла літаратурная сядзіба, дзе можна было пабачыць кампазіцыі з гародніны, садавіны і кветак у арыгінальным кніжным аздабленні. Увагу прыцягнуў і макет вялікай кнігі з дэвізам «Наш хлеб духоўны — кніга». Уразілі арыгінальныя экспазіцыі з дароў прыроды па сюжэтах вядомых казак.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ,**
**загадчык аддзела маркетынгу**
**Бярэзінскай цэнтральнай бібліятэкі,**
**фота аўтара**

# Ведай наша!

**Калекцыя ўзорных выданняў пра Беларусь (больш як 80 асобнікаў — лаўрэатаў нацыянальных і міжнародных кніжных конкурсаў) урачыста перададзена ў дар Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы. Акцыя адбылася ў межах рэалізацыі праекта «Беларусь сёння», ініцыяванага ў 2010 годзе трыма міністэрствамі — культуры, інфармацыі і замежных спраў нашай краіны.**

Ва ўрачыстай цырымоніі бралі ўдзел з польскага боку — наменнік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы Катажына Сьляска, з беларускага — аўтар гэтых радкоў, а таксама прысутнічалі супрацоўнікі абедзвюх кніжніц, Беларуская культурнага цэнтра ў Варшаве і Міністэрства культуры і культурнай спадчыны Польшчы. Такая ініцыятыва садзейнічае распаўсюджванню ведаў пра Беларусь у польскім грамадстве, спрыяе паляпшэнню ўзаемаразумення паміж народамі.

Прадстаўнікі Нацыянальнай бібліятэкі і Міністэрства культуры і культурнай спадчыны Польшчы адзначылі зацікаўленасць у далейшым развіцці супрацоўніцтва паміж нацыянальнымі кніжніцамі, дамовіліся пра канкрэтныя формы ўзаемадзеяння на два найбліжэйшыя гады.

***

Распачата праца па ўліку рукапіснай спадчыны Радзівілаў. Па выніках пасяджэння Беларуска-польскай кансультатыўнай камісіі па справах культурнай спадчыны, якое прайшло ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы ў Варшаве, было вырашана пачаць фарміраваць Інвентар рукапісаў з бібліятэк Радзівілаў, якія сёння захоўваюцца ў бібліятэках Беларусі, Польшчы і Францыі.

Як вядома, нясвіжскі кнігазбор быў адным з найвялікшых і найбольш каштоўных ва Усходняй Еўропе. Аднак рукапісная спадчына, надзвычай каштоўная і рэдкая, дагэтуль заставалася па-за ўвагай даследчыкаў. Вядомы асобныя рукапісы, якія захоўваюцца ў расійскіх зборах. Напрыклад, знакаміты Радзівілаўскі летапіс ці «Радзівілаўскія акты» са збораў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі.



*Алесь Суша і Катажына Сьляска падчас цырымоніі перадачы кніг пра Беларусь.*

Аднак сістэматычны аналіз бібліятэчных фондаў дзеля выяўлення рукапісаў з Радзівілаўскіх збораў яшчэ чакае рэалізацыі.

Ініцыятыва беларускіх і польскіх калег будзе падтрымана Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы. Ужо дасягнута дамоўленасць дзвюх Нацыянальных бібліятэк аб супольнай працы ў гэтым кірунку, што было замацавана пратаколам Беларуска-польскай кансультатыўнай камісіі па справах культурнай спадчыны. Чакаецца, што ў 2016 — 2017 гг. будуць апрацаваны рукапісы, якія знаходзяцца ў зборах Беларусі, Польшчы і Францыі, пасля чаго праца можа быць працягнута з калекцыямі бібліятэк Расіі, Літвы, Украіны і іншых краін. З беларускага боку пратакол падпісаў наменнік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша, з польскага — наменнік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы Катажына Сьляска.

**Алесь СУША**

*Млын навін*

# Вольную хвіліну — чытву

Сапраўдны настаўнік дапамагае вучням не толькі здабываць веды, але і думаць, разважаць, спасцігаць жыццё. Прывівае любоў да кнігі і вучыць атрымліваць ад гэтага асалоду. Прыкладам таму — Таццяна Купраш, пастаянны карыстальнік у бібліятэцы гімназіі № 2 горада Ваўкавыска.

Таццяна Міхайлаўна шмат робіць для таго, каб урок быў цікавы і прыносіў радасць: прыдумвае новыя формы працы, развівае пазнавальныя здольнасці вучняў, выкарыстоўвае на ўроках гульнявыя метады навучання. Між іншым варта адзначыць, што фармуляр настаўніцы вылучаецца сярод іншых аб'ёмам: кожны год Таццяна Міхайлаўна прачытвае больш як 400 кніг — дзіцячых, метадычных, мастацкіх, шмат даведачнай літаратуры.

Настаўніцай Таццяна Купраш марыла стаць з маленства. Бацькі былі не супраць выбару, бо лічылі гэтую прафесію адной з самых важных. Да таго ж яе бабуля, Ірына Рыгораўна Паплаўская, 42 гады аддала настаўніцкай працы. Любоў да кнігі — таксама ад бабулі, якая вечарамі чытала ўнукам цікавыя творы і спявала народныя песні. «Кнігі з цягам часу так захапілі мяне, што ўсю аддаю кожную вольную хвіліну, — распавяла Таццяна Міхайлаўна. — Кніга дапамае забыць непрыемныя моманты, дае магчымасць адпачыць. Люблю чытаць творы беларускіх пісьменнікаў, асабліва паэзію: яна такая мілагучная! Многія вершы ведаю на памяць. Часта наведваю гарадскія кніжніцы, зарэгістравана ў "Кніжным клубе"». Шмат выданняў Таццяна Міхайлаўна дорыць нашай бібліятэцы.

Вучні Таццяны Купраш удзельнічаюць у розных конкурсах і часта перамагаюць. Нядаўна ў кніжніцы праходзіў конкурс, прысвечаны Дню беларускага пісьменства «Лепшая самаробная кніга», на які таксама адгукнуліся яе вучні — і перамаглі!

**Тэрэза КАВАЛЬЧУК,**
**загадчык бібліятэкі гімназіі № 2 г. Ваўкавыска**

***

Культурна-духоўны цэнтр гомельскай гарадской бібліятэкі № 8 у наступным годзе адзначыць свой юбілей — 20 гадоў! Калісьці тут працавала праваслаўная нядзельная школа для дзяцей і дарослых, а таксама рэдакцыя газеты «Лампада» (цяпер «Сретение»).

За гэты час у кніжніцы адбылося шмат цікавых мерапрыемстваў: ладзіліся прэзентацыі новых выданняў, сустрэчы з прадстаўнікамі праваслаўнай царквы, ветэранамі вайны і працы, мясцовымі літаратарамі, мастакамі, журналістамі. А нядаўна сюды завіталі журналіст і паэт Сяргей Краснабарод, паэтэсы Ганна Атрошчанка і Яўгенія Барсукова.

На працягу двух гадоў з поспехам праводзіцца акцыя «Аўтобус, які чытае» (ідэя належыць загадчыцы гарадской бібліятэкі № 8 Антаніне Уваравай). Падчас акцыі папулярызуецца творчасць айчынных пісьменнікаў і новыя выданні. Гамяльчане і госці горада атрымліваюць у падарунак кнігі, многія становяцца актыўнымі чытачамі бібліятэкі.

**Ларыса РАГАЎСКАЯ**

***

Пад назвай «Нам восень свята падарыла» адбылася святочная вечарына ва Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса, прысвечаная Дню пажылога чалавека. У гэты дзень у пачатку кастрычніка ў бібліятэкараў заўсёды ёсць нагода выказаць словы ўдзячнасці самым паважаным чытачам, чыё дзяцінства і маладосць прыйшліся на ваенныя і пасляваенныя гады.

Мерапрыемства атрымалася цікавым: свае здольнасці паказалі самыя актыўныя ўдзельнікі клуба «Залаты ўзрост», што працуе пры бібліятэцы. На працягу некалькіх гадзін гучалі песні, вершы, рамансы, гумарэскі ў выкананні самадзейных артыстаў творчага калектыву «Сакавіца», створанага пры Тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Самыя шчырыя віншаванні прагучалі ад кіраўніцтва раённага Савета ветэранаў вайны і працы і Слабадскога сельскага Савета.

У кніжніцы разгарнуліся выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, «Прысядзібныя фантазіі» — удзельнікаў раённага конкурсу «Сад і агарод».

**Аксана ДРАЧАН,**
**дырэктар Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса**

# Кніжніца тваёй мары

**У Галандыі, у прыгарадзе Ратэрдама Спэйкэнісе, адкрылася новая бібліятэка *Book Mountain + Library Quarter*. Адметнай яе робіць незвычайная форма — шкляная піраміда.**

## ЗА ШКЛОМ

Плошча піраміды — прыкладна 93 000 квадратных метраў. Знешняя частка яе складаецца з паўпразрыстага шкла, з усталяваным падсвятленнем. Унутры піраміды знаходзіцца яшчэ адна — вязлізная кніжная шафа — «прыступкамі». Уздоўж усіх кніжных стэлажоў пралягае дарожка, агульная даўжыня якой — 470 метраў. І ўжо на «даху» гэтай шафы — кавярня, дзе можна падсілкавацца ды пачытаць упадабаную кнігу.

Па агульных падліках, бібліятэка сабрала больш як 70 000 кніг. Стварыла гэты цуд студыя MVRDV, а размясцілася піраміда на Базарнай плошчы.

Між тым ***Book Mountain + Library Quarter*** не толькі бібліятэка. Гэта цэлы комплекс збудаванняў, звязаных паміж сабой. Тут і адукацыйны экалагічны цэнтр, і канферэнц-залы, і вучэбныя аўдыторыі, і офісы, і і гандлёвыя плошчы, і гатэль, і нават сацыяльныя жытло (42 кватэры).

Так, архітэктурную навінку Спэйкэніса ўжо назвалі кніжным кварталам. Сапраўды, гэтую мясціну можна лічыць зямным раем бібліяфілаў.

## ГІГАНЦКІЯ ПАЛІЦЫ, КУБ І СУТАРЭННЕ

Натуральна, гэта не адзіная незвычайная бібліятэка ў свеце. Рэгулярна з'яўляюцца спісы самых дзіўных/прыгожых/выродлівых кніжніц.

І кожны раз у гэтыя спісы трапляе публічная бібліятэка **Канзас-Сіці (ЗША)** — у станоўчым святле. Гісторыя ў яе цікавая: кніжніца дзесяць гадоў таму была перанесена ў будынак, перад якім неўзабаве з'явілася паркоўка. Каб прыўкрасіць непрыглядны, улады горада вырашылі збудаваць сцяну ў выглядзе гіганцкай кніжнай паліцы. Вышыня яе — восем метраў, шырыня — два. На паліцы суседнічаюць «Прыгоды Гекльберы Фіна» Твэна, «Уладар пярсцёнкаў» Толкіна, «100 гадоў адзіноты» Маркеса, «Рамэа і Джульета» Шэкспіра — усяго 22 вялікія ўва ўсіх сэнсах творы.

Не менш прыцягальная бібліятэка ***Parque Espana*** (**Калумбія**), што мае выгляд вялізных валуноў — ці нават кавалкаў скалы. Збудаваная яна ў 2007 годзе па праекце Джанкарла Мазанці. Унутры непрыступнай з выгляду кніжніцы — культурны цэнтр, шматлікія чытальныя залы і камп'ютарныя класы.



*Інтэр'ер бібліятэкі Book Mountain + Library Quarter.*

А бібліятэка **Луі Нюсэра (Францыя)** увогуле ўяўляе сабой скульптуру: гіганцкая галава, заключаная ў кубе. Аднак патрапіць туды могуць толькі супрацоўнікі кніжніцы, бо тут адміністрацыйныя памяшканні. Бібліятэчны фонд і чытальныя залы месцяцца побач, у традыцыйным будынку.

Калі наведаеце **Італію**, у прыватнасці горад **Перуджы**, не прамініце паглядзець на кніжны НЛА. **Бібліятэка імя Сандра Пены** мае форму лятучай талеркі з ружовымі празрыстымі сценамі. Акрам таго, у будынку змешваюцца натуральнае і штучнае асвятленне, залы — гукаізаляваныя, а сама бібліятэка працуе круглыя суткі. Фантастыка!..

Кніжніцу **Дэлфтскага тэхнічнага ўніверсітэта** (зноў **Галандыя**) трэба яшчэ пашукаць. Справа ў тым, што месціцца яна пад зямлёй. Дакладней, яе дах і сцены закамуфляваныя пад пагорак, парослы сакавітай зялёнаю, на якой адпачываюць змучаныя навукай студэнты. У кніжніцы, якая прыйшлася б даспадобы хобітам, знаходзяцца бібліятэчны фонд, чытальныя залы, універсітэцкае выдавецтва, пераплётны аддзел і кнігарня.

Сярод іншых вылучаецца адна **кітайская кніжніца**: драўляная крэпасць-храм знаходзіцца ў вёсцы **Хуайжоў** і збудаваная са шкла і 45 тысяч драўляных прутоў. Унутры вы не ўбачыце ні сталоў, ні крэслаў; замест іх — шматузроўневыя тэрасы з убудаванымі кніжнымі паліцамі. Тут жа ляжаць цыноўкі, на якіх і чытаюць наведнікі кніжніцы. Будынак не электрыфікаваны, таму асвятленне выключна натуральнае — дах празрысты. Нядзіўна, што працуе кніжніца толькі да 16.30.

І як не згадаць галоўную — прынамсі, ідэйна — бібліятэку свету — Александрыйскую. Дакладней, Александрыну — адноўленую версію той, што была знішчаная амаль дзве тысячы гадоў таму. Будынак месціцца ўнутры басейна і выкананы ў форме дыска, што адсылае да старажытнаегіпецкага бога сонца Ра. Калі новая галандская кніжніца празваная кніжным кварталам, то Александрына — бібліятэчны Сусвет, які змяшчае восем мільёнаў кніг. На сценах бібліятэкі высечаныя графічныя сістэмы са 120 моўных сістэм свету. Гэты архітэктурны шэдэўр егіпецкія бібліятэкары ахоўвалі падчас рэвалюцыі 2011 года: яны сталі жывой заслонай вакол будынка і адбівалі атакі марадзёраў.

Дарэчы, і нашая Нацыянальная бібліятэка, апісваць якую няма патрэбы, не раз трапляла ў спісы самых незвычайных кніжніц свету.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Каханне самурая

**У межах фестывалю «Японская восень у Беларусі 2015» Цэнтр сучасных мастацтваў ладзіць серыю кінапаказаў лепшых традыцыйных і сучасных японскіх спектакляў. Сеансы арганізаваны пры падтрымцы Пасольства Японіі ў Рэспубліцы Беларусь.**

Першы відэапаказ адбыўся ў верасні. Гэта сучасная інтэрпрэтацыя класічнага спектакля «Сірано дэ Бержэрак» сусветна вядомага рэжысёра і тэарэтыка акцёрскага мастацтва Тадашы Сузукі. Назвыкла было сачыць за сюжэтам: спектакль паказвалі на японскай мове. Эмацыянальны настрой герояў па тварах акцёраў не чытаўся. Спачатку атмасфера ў зале заставалася напружанай, але тэатразнаўца, выкладчык кафедры тэорыі і гісторыі мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Ірына Кастылянчанка паступова спыняла паказ і расказвала гледачам пра асноўныя «фішкі» спектакля.

Адна з асаблівасцей пастаноўкі — удзел актрысы Тэатра на Таганцы Ірыны Лінт, якая выконвае ролю галоўнай гераіні — француженкі, прыгажуні Раксаны. Яна адзіная падчас дзеяння размаўляе па-руску. Галоўны герой спектакля гасконец Сірано (ролю выконвае японскі акцёр Кіесумі Ніixоры) таемна кахае Раксану, але не паказвае свае пачуцці. І толькі ў канцы, праз пятнаццаць год, тайна самурая становіцца вядомай яго каханай. Задумка рэжысёра — аб'яднаць вобразы галоўнага героя гасконца Сірано і японскага драматурга Кезо, які піша гісторыю пра гордага самурая. Важна, што акцёры, занятыя ў спектаклі, не губляюць індывідуальнасці, зачароўваюць пластычнасцю і эстэтыкай.

Спектакль «Сірано де Бержэрак» пастаўлены па французскай п'есе, аднак рэжысёр дэманструе ўзаемадзеянне культур, сінтэзуе японскі, рускі, усходні і заходні тэатры, размяркоўвае акцэнты не на міміку і жэсты, а на ўнутраную энергію акцёраў. У пастаноўцы нароўні з традыцыйнымі японскімі народнымі песнямі гучыць музыка з «Травіяты», а маладыя дзяўчыны танцуюць традыцыйныя японскія танцы ў нацыянальных строях.

Пасля прагляду спектакля Ірына Кастылянчанка прапанавала гледачам паўдзельнічаць у дыскусіі, абмеркаваць уражанні. Многім было цікава, чаму ўсё ж такі ролю француженкі выконвае расійская актрыса. Атрымалася, што пагляды на тэатральнае мастацтва Тадашы Сузукі і былога кіраўніка Тэатра на Таганцы Юрыя Любімава вельмі блізкія. Японскі рэжысёр вырашыў паэксперыментаваць.

Наступны відэапаказ адбыўся ў Цэнтры сучасных мастацтваў 15 кастрычніка. Гледачы змаглі ўбачыць адзін са спектакляў японскага класічнага тэатра Кабукі.

**Вікторыя АСКЕРА**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Гісторыя на палатне


Фота Аляксандра Ружэчкі.
*Май Данцыг.*

Выстаўка атрымалася вельмі шматграннай: тут тэматычныя палотны, пейзажы, нацюрморты, партрэты, эцюды, замалёўкі, эскізы… Работы, прадстаўленыя ў экспазіцыі, ілюструюць усе этапы творчасці аўтара. Такім чынам, у гледачоў ёсць магчымасць параўнаць раннія творы з больш познімі.

Май Данцыг — майстар індустрыяльнага пейзажа. На яго палотнах можна зладзіць сапраўдную экскурсію па вуліцах старога Мінска. Мастак стварыў непаўторны паэтычны вобраз сталіцы, у якім перапляліся гісторыя і сучаснасць. Дарэчы, Мінск на яго карцінах заўсёды розны: то яркі і ажыўлены, стракацін алеямі, скверамі і праспектамі, то меланхалічны і самотны, патанае ў абдымках шэрых аблокаў.

Почырк творцы — кантрасны, выразны, са спалучэннем экспрэсіўных, сакавітых колераў. Работы — манументальныя, маштабныя, вышынёю больш за чалавечы рост, нагадваюць вялізныя плакаты.

З адкрыццём выстаўкі Мая Вольфавіча павіншаваў міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, які падкрэсліў выдатнае майстэрства аўтара, яго вялікі ўнёсак у айчынны жывапіс. Цёплыя словы ў адрас творцы выказалі калегі і мастацтвазнаўцы. Высока адзначалі педагагічную дзейнасць у Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, якой майстар прысвяціў паўвека. Сярод выпускнікоў прафесара — нямала выдатных жывапісцаў. Пра талент мастака яскрава сведчаць і яго ўзнагароды: ордэн Францыска Скарыны і ордэн Пашаны.

Сёлета Май Вольфавіч адсвяткаваў 85-годдзе. Ён па-ранейшаму поўны творчага імпэту і натхнення — шмат часу праводзіць каля мальберта ў сваёй майстэрні. Палатно «Малы Трасцянец» датуецца гэтым годам.

Работы майстра знаходзяцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, прыватных калекцыях Азербайджана, Малдовы, Італіі, Германіі, Бельгіі, Ізраіля, ЗША.

Паглядзець на работы выбітнага жывапісца можна да 16 лістапада.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Магія далёкага Усходу

**Сапраўдныя скарбы з музеяў Сеула можна пабачыць на выстаўцы «Жыццё Карэі», якая працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі. Экспазіцыя — цікавы аповед пра гісторыю і сучаснасць усходняй краіны.**

Прадстаўлена больш як дзве сотні прадметаў: дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, скульптура, творы рэлігійнага і свецкага жывапісу. Як адзначыў падчас адкрыцця Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Карэя


*Дэкаратыўныя шпількі.*


Фота Кастуся Дробава.
*Чо Ён-шын «Партрэт».*

ў Рэспубліцы Беларусь Ян Жунг Мо, выстаўка — унікальная магчымасць пазнаёміцца з цікавымі традыцыямі і самабытнай культурай карэйцаў.

Экспазіцыя ўмоўна падзеленая на тэматычныя блокі і ахоплівае значны перыяд часу — амаль тысячагоддзе: ад дзяржавы Каро да нашых дзён. Самы старажытны экспанат — бронзавы званочак з будыйскага храма (належыць да XIII стагоддзя).

Жыхары Карэі беражліва захоўваюць традыцыі, якія дайшлі ад далёкіх продкаў. Найбольш значныя моманты ў жыцці кожнага чалавека суправаджаюцца строгім рытуалам. У экспазіцыі прадстаўлены рэчы, якія ілюструюць свята нараджэння дзіцяці, вясельны і пахавальны абрады.

Рэлігійнай тэме адведзены цэлы блок выстаўкі: большасць рэчаў прысвечана будызму. З найцікавейшых прадметаў — старажытны татэм, народныя музычныя інструменты, традыцыйныя маскі, а таксама сапраўдны столік шамана, з дапамогай якога, згодна з вераваннямі карэйцаў, можна паўплываць на лёсы людзей.

Да ўвагі гледачоў — посуд, прадметы хатняга ўжытку, лісты і газетныя артыкулы, традыцыйнае карэйскае адзенне і абутак. Літаральна зачароўвае свецкі і рэлігійны жывапіс — далікатныя шаўковыя шэдэўры, распісаныя фарбамі.

Наведвальнікі пабываюць і ў карэйскім доме: арганізатары аднавілі інтэр'ер пакояў у зале ўстановы. Тут не знайсці велізарных ложкаў, крэслаў ці шафаў, уся мэбля — вельмі маленькая, амаль лялечная. Згодна са старадаўнім звычаем, дом падзелены на дзве часткі. І калі жаночая палавіна — яркая, маляўнічая, упрыгожаная разнастайнымі дэкаратыўнымі элементамі, то мужчынская выканана ў мінімалістычнай, стрыманай колеравай гаме. Абавязковыя прадметы інтэр'ера — стэлаж для лістоў, канцылярская камода, пісьмовы стол.

— У беларусаў і карэйцаў шмат агульнага, — зазначыў падчас адкрыцця экспазіцыі дырэктар Музея ўніверсітэта Дангук Чон У Тхак. — Мастакі абедзвюх краін часта выкарыстоўваюць белы колер, аддаюць перавагу прыродным матывам у творчасці.

Выстаўка арганізаваная сумесна з Музеем універсітэта Дангук і Карэйскім фондам пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Карэя ў нашай краіне.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Наменснік галоўнага рэдактара
Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
наместнік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 22.10.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1907.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1494 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12